PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (2158) Год XLII Беласток 21 верасня 1997 г. Цана 1 зл.

# Беларускія кандыдаты



**Яўген ВАПА — кандыдат у Сейм, спісак №1**



**Ян ТАПАЛЯНСКІ — кандыдат у Сенат**



**Міхал КАНДРАЦЮК — кандыдат у Сенат**

# Беларускага фэсту не было

**Адказвае бурмістр Бельска Андрэй Сцепанюк на публічны закід Валянціны Ласкевіч. Сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства гаварыла ў Бельску 7 верасня падчас фэсту, што гарадскія ўлады не схацелі даць на яго грошай.**

— Як я гэта пачуў, аж мне марожанае ў руцэ растала, — кажа намеснік бурмістра Яўген Беразовец. — Падышоў я да Яна Сычэўскага і пытаю: „Пан Сычэўскі, то вы арганізатар гэтага фэсту? Калі вы звярталіся да нас з просьбай аб дафінансаванні?”

У Гарадскую управу Бельска-Падляшскага 18 жніўня паступіла заява: *Rada Rejonowa SdRP w Bielsku-Podlaskim* (тут і далей пакідаю без зьмяненняў арфаграфію, граматыку і стылістыку пісьма — М. В.) *wspólnie z Biurem Poselsko-Senatorskim SLD w Bielsku-Podlaskim zwraca się z prośbą o udostępnienie obiektu muszli miejskiej do zorganizowania spotkania z posłami Ziemi Białostockiej Premierem Włodzimierzem CIMOSZEWICZEM, Stanisławem MALISZEWSKI, Sergiuszem PLEWA, Mieczysławem PIECKA w dniu 7 wrzesnia 1997 r. z jednoczesnym zaprezentowaniem zespółów artystycznych. Nadmieniamy, iż celem spotkania jest przedstawienie efektów pracy naszych posłów z bieżącej kadencji.* Пісьмо было аддрукаванае на фірменным бланку бельскай СДРП. Подпіс — неразборлівы.

Гарадская ўправа папрасіла арганізатараў выбарчага спаткання ўдакладніць гадзіны яго праведзення і назваць адказную асобу. У наступным лісце сацыял-дэмакраты напісалі, што плануюць мерапрыемства ад другой гадзіны пасля абеду да дзесятай вечара. Адказным быў названы Анатоль Навіцкі — працаўнік Пасольска-сенатарскага бюро СЛД у Бельску.

— У чацвер перад фэстам пазваніў мне спадар Навіцкі, — кажа бурмістр Андрэй Сцепанюк, — і папрасіў, каб мы далі грошы калектывам, якія будуць выступаць на фэсце. Па-першае, не ў такім тэрміне і не ў такой форме звяртаюцца аб дафінансаванні. Па-другое, на выбарчы мітынг грошай з гарадской казны не дамо. У той жа дзень такую ж сустрэчу, толькі раней, праводзіла Выбарчая акцыя „Салідарнасць”. Тады ім таксама трэба было б нешта даць. А астатнія камітэты?

Гарадская рада (радныя вырашаюць, як мае грашамі гаспадарыць бурмістр ці войт — М. В.) прызначыла ў гэтым годзе на культурныя мерапрыемствы па чатыры тысячы злотаў наступным арганізацыям: рымска-каталіцкаму прыходу Нараджэння Найсвятой Дзевы Марыі і Св.Мікалая, Звязу беларускай моладзі, Саюзу ўкраінцаў Падляшша і Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству.

— Дафінансаванне атрымала не Галоўнае праўленне, а Бельскі аддзел БГКТ, — кажа бурмістр Сцепанюк, — таму што грошы нашага падаткаплацельшчыка павінны быць выдаткаваны ў нашым горадзе, а не ў Беластоку ці Бог ведае дзе. І аддзел, прыпамінаю, суарганізаваў у жніўні „Спасаўскія запусты”, на якія былі запрошаны прадстаўнікі Галоўнага праўлення, але чамусьці не з’явіліся.

Старшыню Бельскага аддзела БГКТ Васіля Ляшчынскага на фэст запрасілі як дадатак да бігасу.

— Пазваніла мне пані Ласкевіч і спытала ці школьная сталоўка можа накарміць выступаючых на фэсце. А потым сказала: „То і ты прыходзь”. Мяне ўсё гэта ўжо нават не нервуе, а проста смешыць.

Мікола Ваўранюк

PS. А вось яшчэ адзін перадвыбарчы бельскі кур’ёз, не толькі з гэтага самага месца, але нават з тае самае верасьнёвае нядзелі. Кандыдат у паслы Выбарчай акцыі „Салідарнасць” (ён жа і гарадскі радны) Міраслаў Талвінскі гаварыў са сцэны:

— Я ведаю, чаму так мала народу сюды прыйшло. Таму, што палякі ў гэтым горадзе запалоханы. Я, аднак, абяцаю, што пасля нашай перамогі нацыянальныя меншасці захаваюць усе належныя ім правы.

Дзякуй вам, пан Талвінскі.

М. В.

## У нумары

# Мы прачыталі

*Na rynku jest nadmiar zboża paszowego. W przypadku pszenicy konsumpcyjnej, której skup zaliczkowy postulował PSL, występuje jej niedostatek i w zasadzie awantura wywołana w łonie koalicji rządzącej jest bezprzedmiotowa. Gdyby jednak skup zaliczkowy doszedł do skutku, to podatnicy powinni zdać sobie sprawę z tego, że zapłacą zań dwukrotnie. Raz, gdy Agencja Rynku Rolnego otrzyma nań z budżetu przyszłego roku 120 mln zł., drugi, gdy m.in. dzięki temu ceny zboża wzrosną.*

*Sprawa, kto za tę operację zapłaci, jest klarowna. Mniej natomiast wydaje się klarowne, kto na niej naprawdę zyska. Oprócz dwóch procent gospodarstw, które skorzystają ze skupu zaliczkowego, zwyżka cen jest korzystna dla tych, którzy mają w magazynach zboże z importu. Choć dziś PSL pomstuje na otwarcie granic, nie jest tajemnicą, że sporo zboża z zagranicy sprowadzili jej działacze.*

*Mówienie, że awantura o zaliczkowy skup dzieje się dla dobra polskiego rolnictwa wydaje się nadużyciem. Tak naprawdę, najwięcej do zyskania ma PSL. Dyspozycyjna wobec tej partii Agencja Rynku Rolnego dostanie w przyszłym roku nowe pieniądze z budżetu, które nie były dla niej przewidziane. Pieniądze agencji to władza PSL.*

*Polityka, nr 35*

* * *

*Згодна з пастановай Міністэрства адукацыі Беларусі і Дзяржкамітэта па справах моладзі, студэнты паедуць дапамагаць калгасам і саўгасам капаць бульбу. Вяртаецца яшчэ адна добрая савецкая традыцыя.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 34*

* * *

*Гэты рабочы тыдзень Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі будзе насычаны мерапрыемствамі і сустрэчамі, якія маюць важнае сацыяльна-эканамічнае, палітычнае і культурнае значэнне ў жыцці краіны. У рабочым графіку Прэзідэнта запланавана інтэрв'ю рэдактару газеты „Деловой мир". Прэзідэнт краіны ўручыць дзяржаўныя ўзнагароды вялікай групе перадавікоў вытворчасці, — пра насычаны* мерапрыемствамі рэгламент прэзідэнцкага тыдня інфармуе

*Народная газета, н-р 173*

* * *

*У пасляваенны перыяд аж да пачатку 90-х гадоў колькасць насельніцтва ў Беларусі расла. Праўда, тэмпы гэтага росту пастаянна зніжаліся: у 80-я гады ў параўнанні з 50-мі натуральны прырост насельніцтва зменшыўся ў 2 разы, а ўжо ў 90-я прырост стаў адмоўным. У 1995 годзе колькасць насельніцтва зменшылася на 32,8 тыс. чалавек, у 1996-м — на 30,3 тыс., а за першыя 6 месяцаў гэтага года — яшчэ на 20 тыс. чалавек.*

*Звязда, н-р 155*

* * *

*Akcja Wyborcza „Solidarność" idzie do wyborów z księdzem Rydzykiem i hasłem „Teraz, ku...a, My".*

*Przegląd Tygodniowy, nr 34*

* * *

*Naprawdę groźnym rywalem dla Cimoszewicza w walce o głosy prawosławnych wydaje się być Eugeniusz Czykwin, startujący z listy Stowarzyszenia Słowiańskiej Mniejszości Narodowej i wspierany przez białostockiego arcybiskupa Sawę. Arcybiskup Sawa, który dał się poznać jako polityk nadzwyczaj skuteczny, dość nieoczekiwanie dla lewicy zmienił front, zdecydował się walczyć o własną reprezentację w Sejmie,* — піша

*Kurier Poranny, nr 203*

* * *

*У цэнтры Магілёва часта з'яўляюцца пікеты фашыстаў з „Российского национального единства". Баевікоў з РНЕ ніколі не затрымлівала міліцыя. Адкрыта прадавалі яны фашыстоўскую літаратуру. Іх сімвалаў і лозунгаў на сценах ніхто не імкнецца сціраць, а вось надпісы „Наш дом — Беларусь!", „Жыве Беларусь!" вынішчаліся вельмі аператыўна.*

*Свабода, н-р 93*

* * *

*Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі Беларусі распаўсюдзілі паведамленне аб тым, што на З'ездзе „Бацькаўшчыны" адбыўся раскол і многія беларускія суполкі выйшлі з арганізацыі. Прадстаўнікі некаторых беларускіх суполак — Ян Сычэўскі (БГКТ, Польшча), Ганна Лапацьева (Бендэры), Васіль Самуйленка (Харкаў) выступілі на сустрэчах ва ўрадавых структурах, па тэлевізіі, і абразліва выказаліся ў адрас З'езду і самой „Бацькаўшчыны"... Гэта дае права сцвярджаць, што дзяржаўнымі ўладамі пачалася мэтанакіраваная, разбуральная праца супраць нашага адзінства, супраць Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына"*, — пішаца ў лістоўцы „Зварот управы беларусаў свету „Бацькаўшчына" да беларускіх суполак у замежжы па выніках работы Другога з'езду".

* * *

*Прадстаўнікі беларускіх дыяспараў разглядаюць сучаснае становішча на Беларусі, як нацыянальную трагедыю, —* піша часопіс віленскіх беларусаў

*Рунь, н-р 5*

# З мінулага тыдня

**У Вільні** сустрэліся правадыры дванаццаці дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, каб абмеркаваць пытанні прымірэння народаў гэтай часткі старога кантынента пасля II сусветнай вайны. „Мы паказалі, што ўмеем аналізаваць свае ўнутраныя і знешнія праблемы і не намерваемся ўваходзіць з імі ў Еўропу будучыні", — сказаў прэзідэнт Літвы **Альгірдас Бразаўскас** у адказ сваім у латвійскаму калегу **Гунцісу Ульманісу**, які скептычна ацаніў вынікі сустрэчы толькі па той прычыне, што прэзідэнту Беларусі **Аляксандру Лукашэнку** не была прад'яўлена вострая высnova за парушанне прынцыпаў дэмакратыі. „Непакояць нас унутраныя праблемы Беларусі, — працягваў літоўскі прэзідэнт, — і будзем шукаць спосабаў, як дапамагчы гэтай краіне ўвайсці на шлях дэмакратычных перамен". Прэзідэнт РП **Аляксандр Кваснеўскі** заявіў, што ізаляцыя Беларусі была б найгоршай палітыкай і выказаў спадзяванне, што яе правадыр зразумее, што на нашым кантыненце няма альтэрнатывы для дэмакратыі.

**Ежы Гедройц**, рэдактар парыжскай „Kultury" і шматгадовы дырэктар польскага Літаратурнага інстытута ў Францыі, атрымаў ганаровае грамадзянства Літвы. Нарадзіўся ён у 1906 г. у Менску і жыў там да 1916 г. У міжваенны перыяд выказваўся за федэрацыйнай ідэяй, а пасля вайны адкрыў старонкі „Kultury" для незалежніцкіх элітаў Літвы, Украіны і Беларусі. У 1954 г., насуперак пазіцыі польскага лонданскага ўрада, ягоны тыднёвік выказаўся за нязменнасць усходняй граніцы пасляваеннай Польшчы. „Kultura" пераконвала, што без незалежнасці Літвы, Украіны і Беларусі не будзе стабільнай Цэнтральна-Усходняй Еўропы і нармалізацыі адносін паміж Польшчай і Расеяй. Заслугі для літоўскай культуры прыпомнілі у Вільні на міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай суіснаванню дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы **Чэслаў Мілаш**, які падкрэсліў, што Е. Гедройц фарміраваў сваю палітычную думку дасьледуючы мінулае свае Айчыны — Вялікага княства Літоўскага.

**Генадзь Наркевіч** — гандлёвы саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь, сустрэўся ў Астралэнцы з прадпрымальнікамі мазавецкага рэгіёна. Беларускі дыпламат і старшыня Польска-беларускай гаспадарчай палаты **Пётр Гутоўскі** заахвочвалі мясцовых бізнесменаў рабіць капіталаўкладанні ў Беларусі. Цяпер толькі некалькі астралэнцкіх фірмаў супрацоўнічае з беларускім бокам, а іх шэфы наракаюць на бюракратыю і складанасці, з якімі прыходзіцца ім змагацца ў суседняй краіне.

**Згуртаванне літоўцаў** — найстарэйшая літоўская арганізацыя ў Польшчы адзначала 40-годдзе сваёй дзейнасці. З гэтай нагоды ў Сейнах адбыліся ўрачыстры канцэрт, багаслужба і прэс-канферэнцыя, на якую запрашэнні атрымалі 15 рэдакцый, але пакарысталіся імі толькі дзве.

**Чарнобыль II** — так называецца даследчыцкая праграма, мэтай якой з'яўляецца выяўленне, ці выразны рост захворванняў на хваробы шчытападобнай залозы можа быць паслядоўнасцю катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Спачатку будуць праводзіцца абследаванні жыхароў Сейнаў, затым Сувалкаў і Аўгустова. У 1998 годзе такая праграма будзе ажыццяўляцца ў Беластоцкім і Альштынскім ваяводствах.

**Тэлеканал „Nasza Telewizja"** атрымаў дазвол трансляваць сваю праграму ў цэнтральнай і ўсходняй Польшчы. У Беластоцкім ваяводстве перадачы NT будзе можна прымаць у лістападзе або снежні гэтага года.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Як жылося ў Мастаўлянах** — расказ Яна Грыгарука.
- **Заўвагі Кастуся Масальскага наконт II З'езду беларусаў свету.**
- **Мова дзяцей і моладзі ў беларускіх сем'ях.**

# Весткі з Беларусі

**Як з гусі вада**

„Суіснаванне народаў і суседскія ўзаемаадносіны гарантыяй міру і стабільнасці ў Еўропе" — гэта тэма міжнароднай канферэнцыі ў Вільні, у якой удзельнічала 12 кіраўнікоў дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Прэзідэнты Польшчы і трох балтыйскіх краін пакрытыкавалі прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку за парушанне правоў чалавека. Аляксандр Лукашэнка не прызнаў крытыкі, сцвярджаў, што ў Беларусі выконваюцца правы чалавека і абураўся толькі, што сродкі масавай інфармацыі прадузята паказваюць Беларусь як бастыён дыктатуры.

**Беларусь без Фонду Сораса**

Джордж Сорас закрыў свой фонд у Беларусі. Паводле яго, учыніць такі крок прымусілі дзеянні беларускіх улад, якія не зацікаўлены будаваць адкрытае грамадства. Беларусь — адзіная постказмуністычная дзяржава, у якой трэба было спыніць дзейнасць гэтага фонду. Беларуская дзяржаўная налогавая інспекцыя паставіла Фонду Сораса закід, што не заплаціў ён падаткаў ад часткі ўзнагарод для ўдзельнікаў конкурсаў. На думку інспектараў, гэтыя конкурсы выходзілі па-за рамкі гуманітарнай праграмы фонду. Па гэтай прычыне фонд быў аштрафаваны на 3 млн. дол. ЗША, банкаўскія рахункі — заблакіраваны, а ўсе паступаючыя на гэтыя рахункі грошы — пераняты дзяржаўнай казной.

**Візы толькі ў пасольствах і консульствах**

Прэс-служба Міністэрства замежных спраў Беларусі паведаміла, што ў адпаведнасці з указам прэзідэнта краіны візы на ўезд у рэспубліку замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства з 1 кастрычніка будуць выдавацца выключна дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі і консульскімі ўстановамі Беларусі за мяжой. З гэтай даты адмяняецца выдача ўязных беларускіх віз у міжнародных пунктах пропуску на дзяржаўнай граніцы рэспублікі, у тым ліку ў аэрапорце Менск-II.

**Ханок і „Мальвы"**

Вядомы беларускі кампазітар Эдуард Ханок увайшоў у журы Міжнароднага конкурсу эстраднай песні „Залатыя мальвы" ў горадзе Белая-Падляшская. Разам з ім туды накіроўваюцца і лаўрэаты беларускага конкурсу „Зорная ростань". Галіна Шышкова — спявачка з Гродна, прыме ўдзел у конкурсе, а мянчанін Аляксандр Лапскі выступіць у заключным гала-канцэрце.

**З аўдыторыі ў поле**

Каб своечасова ўбраць бульбу і буракі, у некаторыя калгасы накіроўваюць на дапамогу студэнтаў і навучэнцаў вучылішчаў. Для аператыўнага рашэння ўсіх арганізацыйных пытанняў, звязаных з работай студатрадаў, у Аршанскім раёне створаны быў адмысловы штаб. У гэты раён было дасланых 160 маладых людзей, каб на працягу месяца працаваць на палях сямі калгасаў.

**Супертэхніка ў калгасах**

Па самых важных участках гаспадаркі калгаса „Шлях Леніна" Баранавіцкага раёна ўстанаўліваюцца відэакамеры. Цяпер у дыспетчарскай, што знаходзіцца ў адміністрацыйным будынку калгаса, пры дапамозе комплексу электроннай апаратуры можна бачыць усё, што адбываецца на машынным двары або жывёлагадоўчай ферме, а таксама аператыўна карэкціраваць тэхналагічны працэс. Апаратура забяспечвае аднолькава добрую бачнасць як днём, так і ноччу, што адразу насцярожыла аматараў пажывіцца за калгасны кошт. Усевідушчае тэлевока цяжка перахітрыць.

**Радыеактыўныя журавіны**

Не толькі шмат вітамінаў, але і вялікую колькасць радыенуклідаў утрымліваюць журавіны, сабраныя ў лясах Столінскага раёна. Аднак мясцовыя сяляне ўсё ж адпраўляюцца за імі ў надзеі зарабіць. За адзін кілаграм балотнай ягады прыезджыя скупшчыкі абяцаюць да 30 тыщ рублёў. Між тым мясцовая міліцыя на сітуацыю паўплываць практычна не можа, асабліва калі справа датычыцца скупшчыкаў з Расеі, бо ўстаноўленая ў Беларусі мяжа забруджанасці журавін складае 185 бекерэляў, а ў Расеі — 600. І таму любы можа даказаць, што радыеактыўныя столінскія журавіны, якія летась у 80% проб былі прызнаны забруджанымі, па мерках суседняй краіны — бясшкодныя.

# Малалюдны фэст

7 верасня ў Орлю прыехаў беларускі вакальна-танцавальны калектыў „Свяціца” і стаў аздобай фэсту, на якім вёў сваю выбарчую агітацыю Станіслаў Малішэўскі — цяперашні пасол і кандыдат на верасьнёўскіх выбарах. Аднак нягледзячы на цудоўны калектыў і прыгожае сонечнае надвор'е публікі сабралася няшмат, недзе пад шэсцьдзесят чалавек. І хаця пасля 13 гадзіны з багаслужбы ў царкве выйшлі сотні вернікаў, людзі абміналі канцэртную пляцоўку і спяшаліся дамоў.

Перад канцэртам ля выбарчага ларка згаданы ўжо пасол і заадно кандыдат у паслы ды ягоная экіпа раздавалі выбарчыя лістоўкі, забаўныя канверты, візітныя картачкі, календарыкі і папяровыя шапачкі. На пытанне пра славутае галасаванне па справах Царквы, калі ён сам выказаўся супраць прызнання праваслаўным права на ўласнасць цэркваў на поўдні Польшчы, пасол пачаў адказваць так завіліста і пакручаста, што нельга было нічога зразумець, а некаторыя збітыя з панталыку слухачы нават пачалі яму наіўна падтакваць. Калі я хацеў узяць інтэрв'ю для „Нівы”, Станіслаў Малішэўскі адмовіўся, сказаўшы, што з ім ужо раней „гаварыла пані Ада, якая не з'явілася на аўтарызацыю”. У раздзьмуханні гэтай справы абвінавáцію ён Яўгена Вапу і Яўгена Чыквіна.

Фэст адкрыў і асобу Станіслава Малішэўскага выбаршчыкам зарэкамендаваў войт Міхал Іванчук, а кіраўнік калектыву „Свяціца” Валянціна Уласава падзякавала старшыні БГКТ Яну Сычэўскаму за запрашэнне ў Орлю. Затым пачаўся канцэрт. Само выступленне „Свяціцы” — цудоўна апранутага калектыву, які выконваў мілагучныя народныя песні і прыгожа танцаваў — выклікала энтузіястычныя рэакцыі нешматлікай публікі. Вялікая шкада, што арганізатары не паклапаціліся пра гукаўзмацняльную апаратуру.

І хаця аб'явы аб фэсце былі расклеены некалькі дзён да мерапрыемства, людзей яны, аднак, не прыцягнулі. Відаць, палітыка перастала цікавіць народ. А і палітыкам, здаецца, надаела ўжо кожную суботу і нядзелю слухаць фальклорныя калектывы, бо пасол Станіслаў Малішэўскі пакінуў пляцоўку ў палове канцэрта.

**Міхал Мінцэвіч**

# Гістарычны візіт

30 жніўня Дубічы-Царкоўныя наведалі прэзідэнт Рэчы Паспалітай Аляксандр Кваснеўскі і прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч. Дубічы ўрачыста рыхтаваліся да сустрэчы такіх пачэсных гасцей. Вуліцу вычысцілі і падмялі, сярод людзей адчуваўся амаль святочны настрой. Гасцей спадзяваліся на вадасховішчы Бахматы ў 10 гадзін раніцы, і туды людзі ішлі і ехалі, нават здалёк. Хаця была субота, людзей з'явілася многа, а каб было гэта ў нядзелю, было б іх напэўна ўдвая больш. Высокія госці крыху спазніліся: недзе 20 хвілін пасля 10-й паявілася ахова на хутkіх „Хондах”, пасля паліцыя на аўтамабілях і за імі ўжо лімузін з прэзідэнтам і прэм'ерам. Людзі прывіталі іх гучнымі апладысментамі. Кваснеўскі з Цімашэвічам, праходзячы каля натоўпу, кожнаму, хто стаяў блізка, падавалі рукі і нават пыталі як здароўе, як жывецца... Пасля былі хлеб і соль — традыцыйная форма прывітання высокіх гасцей. Дубіцкі войт Анатоль Паўлоўскі прывітаў іх кароткай прамовай. Пасля прадстаўнікі гміны падаліся на паверх летняга доміка на паўгадзінную размову з гасцямі. Пасля размовы, сыходзячы з паверха, Кваснеўскі і Цімашэвіч затрымаліся і выказалі сваё задавальненне візітам, гасціннасцю і кемлівасцю гаспадароў. Прэзідэнт Кваснеўскі сказаў, што гаспадарчым і культурным справам беларусаў будзе адводзіцца пастаянная ўвага польскіх улад. Пасля госці праехалі дубіцкай вуліцай і ўсіх там прысутных віталі ўсмешкамі і ўзмахамі рук. Жыхары Дубіч вельмі задаволены гэтым візітам, бо ніколі яшчэ ў гісторыі вёскі не было тут такіх высокіх гасцей.

**Мікалай Панфілюк**

# Кваснеўскі
## не адказаў чыжавянам

Чыжы свой гонар маюць. Паказалі гэта таксама падчас нядаўняга візіту прэзідэнта Аляксандра Кваснеўскага і прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча. Толькі яны адны ў нас віталі высокіх гасцей па-свойму — па-беларуску.

Чыжавяне не пажадалі выступаць толькі ў ролі дэкарацыі ў раней запланаваным сцэнарыі падарожжа. Карыстаючыся нагодай, якая наўрад ці калі-небудзь яшчэ паўторыцца, хацелі задаць найвышэйшым уладам у дзяржаве некалькі пытанняў. А менавіта тых, якія найбольш хвалююць гаспадароў.

Што будзе з сельскай гаспадаркай? Чаму няма на нішто збыту? Чаму ўрад Цімашэвіча прывёз з-за мяжы збожжа, хаця польскія гаспадары не маюць што з ім рабіць?

Не задалі, аднак, ні гэтых, ні іншых. Да прэзідэнта і прэм'ера іх не падпусцілі, каб не перашкаджалі... мастацкім выступленням. **(ак)**

# Экалагічная Чаромха

У сямідзесятых і васьмідзесятых гадах, у час найбольшага працвітання Чаромхі, паступіла вялікая пагроза забруджання асяроддзя чыгуначнымі прадпрыемствамі. Ужо тады ўсім стала вядома, што вада ў Чаромхаўскай гміне ў 70% атручаная фенолам. Напрыклад, у Ставішчах і прылеглых да Шпалапрапітачнага завода вуліцах вада непрыгодная для спажывання ў сырым відзе. Адходы алеяў і змазачных матэрыялаў з паравознага дэпо, выпушчаныя ў мясцовую рачулку Нурчык, сталі прычынай гібелі рыб і ракаў, якіх у той час вадзілася тут вялікая колькасць.

Грамадства сігналіла на трывогу. Амаль на ўсіх важных сходах гаварылася пра экалагічную пагрозу, аж справа аховы натуральнага асяроддзя стала для гмінных улад вядучай. Прыхіляючыся да пастулатаў жыхароў гміны, Цэнтральная чыгуначная дырэкцыя ў Варшаве ў канцы васьмідзесятых гадоў здала ў карыстанне ачышчальню сцёкаў у паравозным дэпо. У пачатках дзевяностых гадоў насельніцтва атрымала водаправод.

Застаецца нявырашанай справа камунальных сцёкаў. Адкрыты роў з смярдзючай вадою праходзіць вуліцаю Дзібуа праз цэнтр пасёлка і выклікае непрыемнае ўражанне ў прыезджых з-за мяжы гасцей. Але і гэтая справа хутка будзе мець свой станоўчы фінал. Дзякуючы намаганням мясцовага войта і пры дапамозе ваяводскіх экалагічных улад пачалася пабудова сапраўднай ачышчальні сцёкаў. Інвестыцыя будзе завершана да канца гэтага года. Урэшце праблема камунальных сцёкаў канчаткова рашаецца і Чаромха стане экалагічным пасёлкам.

**Уладзімір Сідарук**

# Прадаў бычка

Аўторак — гэта дзень скупкі жыўнасці ў Нарве. Сюды прыязджае многа гандляроў, каб купіць хатнюю жывёлу ў сялян. Калі я заехаў на пункт скупкі, зараз абступілі мяне гандляры, але я крышку стрымоўваўся з продажам і пайшоў паглядзець цэны на дзяржаўным пункце скупкі. Там я даведаўся, што за кілаграм жывой вагі атрымаю 2 злоты і 5 грошаў, а гандляры прапануюць 2 злоты і 20 грошаў. Прадаў гандлярам, бо атрымалася 15 грошаў больш за кілаграм.

Прадаўшы бычка зайшоў я ў бар выпіць піва і тут аказалася, што за кілаграм ялавічыны не змагу купіць куфля піва з сокам. Калісь казалі, што тэлевізар ці піва — гэта люксус і без яго можна жыць. Цяпер гэтага ўжо не гавораць, бо тэлевізар ёсць у кожнай хаце, і то не адзін, а многія маюць спадарожнікавыя антэны.

Мне здаецца, што хлеб, бульба і мяса — гэта вялікі люксус і без гэтага нельга жыць, бо галодны чалавек становіцца больш агрэсіўным, паводзіць сябе бы звер, забівае другога абы здабыць сабе ежу. Калі будуць такія цэны на ялавічыну як цяпер, то гаспадары ўвогуле перастануць гадаваць быдла, а калі ўжо ўвойдзем ва Унію ці НАТО, то будзем жыць „як пан Масціцкі, без мяса і пшанічкі”, а ўсё гэта будзем сын сыпаць з Захаду як манна нябесная. Але тады нашым уладам будзе запозна адбудоўваць вёску. Ужо некалькі разоў яе адбудоўвалі, але яна заўсёды падае ў вялікую яму і штораз менш падымаецца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Новы адукацыйны асяродак

У мінулым годзе пачаў працаваць адукацыйны асяродак Белавежскага нацыянальнага парку. Усё паказвае, што неўзабаве падобную ўстанову адчыніць Надлясніцтва Белавежа. Асяродак лясной адукацыі „Ягелонскае” будзе змяшчацца ў рамантаваных зараз поўным ходам будынках, якія да вайны займала Ягелонскае надлясніцтва, а пасля вайны застава Войск аховы пагранічча. Яны знаходзяцца ў лесе, непадалёк Белавежы. Трапіць у гэтае месца можна дзвюма дарогамі: адна вядзе ад Падалянаў, другая — ад Грудак. Абедзве дарогі зараз рамантуюцца. Добраўпарадкоўваецца таксама наваколле будучага асяродка: высечаны непатрэбныя дрэвы і кусты, зраўнаваны грунт, пастаўлена новая агароджа.

Як цікавінку падам, што ў адным з рамантаваных будынкаў знойдзены пад падлогай гнёзды з чатырма сонямі. Соня — гэта рэдкі зараз у Белавежскай пушчы шэры звярок, нагадваючы вавёрку.

**Пётр Байко**

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Грабавец**

Самая вялікая вёска ў гміне Дубічы-Царкоўныя. Была яна заснавана ў XVI стагоддзі і першапачаткова называлася Абыходнік (1576 г.), але ўжо ў рукапісе ад 1616 г. паралельна выступае і другая назва Грабавец. Паводле перапісу Падляшскага ваяводства, у 1661-1664 гадах у Грабаўцы былі 144 дамы, у якіх пражывала 623 чалавек. Вёска мела 60 валок зямлі. Падчас шведскага патопу вёска была ўшчэнт знішчана і паўторна заселена.

У 1790 годзе Грабавец налічваў 68 дамоў, а ў 1900 — 48, у якіх жыло 406 чалавек (195 мужчын і 211 жанчын). У 1887 годзе ў царкоўнай школе граматы ў Грабаўцы вучылася 32 дзяцей. У 1915 годзе частка жыхароў вёскі выехала ў бежанства ў глыб Расеі. У час І сусветнай вайны ў Грабаўцы была адкрыта беларуская публічная школа.

У 1992 годзе вёска налічвала 402 жыхароў, а ў 1994 — 598. Да 1995 года ў пачатковай школе вучылася тут 27 дзяцей. Захаваліся даўнія ветракі з 1926, 1936 і 1941 гадоў.

Цяпер у Грабаўцы пражывае 587 чалавек (у тым ліку 332 дарослых асоб і 55 непаўналетніх). Насельніцтва Грабаўца ўжо больш за трыццаць гадоў займаецца вырабам саламяных кашоў на экспарт у краіны Заходняй Еўропы, між іншым у Вялікабрытанію.

**Тафілаўцы**

Вёска поўнасцю цягнецца над Арлянкай, паралельна да шашы Стары Корнін — Дубічы-Царкоўныя. Па ліку насельніцтва займае яна пятае месца ў Дубіцкай гміне. У 1994 годзе жыло ў ёй 204 чалавек, а цяпер — 194 (у тым ліку 39 асоб ва ўзросце да 18 гадоў).

Перадавымі сялянамі, якія займаюцца гадоўляй малочных кароў, лічацца тут Ян Корч, Рыгор Корч і Яўген Тапор.

**Чахі-Арлянскія**

Гэта адна з большых вёсак у Дубіцкай гміне. У 1901 годзе было ў ёй 31 дамоў і 151 жыхар (126 мужчын і 125 жанчын). Распаложана яна ў невялікай даліне ля чыгуначнай лініі з Гайнаўкі ў Чаромху. У пасляваенныя гады неўраджайныя землі былі аблесены. Паміж Чахамі і Елянкай бярэ свой пачатак рэчка Арлянка.

Яшчэ ў 1980-х гадах існавала тут школа, якая цяпер, напаўразбураная, палохае праезджых сваім выглядам.

Цяпер у вёсцы жыве 145 чалавек, у тым ліку толькі 9 няпоўналетніх. У Чахах нарадзілася Анна Шыманская — настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Орлі.

**Рутка**

Распаложана на беразе рэчкі Арлянкі, непадалёк шашы з Дубіч у Орлю. У 1901 годзе было тут 10 дамоў, у якіх жылі 41 мужчына і 39 жанчын. 23 чэрвеня 1941 года гітлераўцы расстралялі трое сялян і чацвёра савецкіх салдат.

Цяпер вёска налічвае 68 жыхароў, у тым ліку 12 няпоўналетніх.

**Міхал Мінцэвіч**

# Субота ў Махнатым

Апошняя субота жніўня. Прыгожая пагода ад самага ранку. На вуліцы людзей паўнюсенька, як на святую Ганну. Адна заспаная жанчына, выйшаўшы на вуліцу, пытае:

— Цётачка, што гэта ў нас дзеецца? Людзі як на пажар бягуць, толькі што па-святочнаму апрануты. А, можа, уначы дзе гарэла? Пажарнікі ўсю ноч ездзілі і вуліцу вадой палівалі. Ці можа ліміт вады за першае паўгоддзе не выкарысталі?

— Ой ты Сонька, Сонька! Нездарма цябе так ахрысцілі. Усё жыццё праспіш і ведаць не будзеш, што на свеце робіцца. А сёння ж у нас гістарычны момант: сам прэзідэнт краіны з прэм'ерам дзяржавы прыязджаюць.

— А чаго ім тут трэба, што і Махнатае наведаць задумалі? Ага, а я, дурненькая, забылася, што неўзабаве выбары. У нашых ваколіцах найбольш на іх галасоў аддалі на папярэдніх выбарах. Вось яны і таму да нас завітаюць.

— Можа таму, а можа і не! Задумалі паглядзець як мы жывём, вось і едуць, — адказала суседка.

— А што, яны чатыры гады да нас дарогі не ведалі? Толькі цяпер, якраз перад выбарамі апаматаліся, — стаіць на сваім Сонька. — А, можа, часу не мелі?

— У іх час у абрэз, мінуты палічаны. Не так як у цябе, калі хочаш, тады тапчан мучыш.

А я толькі пасмейваюся, слухаючы іх размову. І вось на гэта ўсё надышоў Ванька Зубалуп і пытае:

— Аб чым так дэбатуеце, кабеткі?

— Вось аб чым, Сонька не ведае, што ў вёсцы творыцца.

— А што, праспала? — весялее Ванька. — Сапраўды, не ведаеш?! Прыязджаюць паважаныя госці: сам прэзідэнт і прэм'ер. Таму вёска шыкуецца ўсімі сіламі іх прывітаць. Парадкі навялі, пакасілі, падмялі, вуліцу вадой палілі. Каб, не дай Бог, найвышэйшым нашым прадстаўнікам краіны пяском вачэй не занясло.

— О, так, так, — азываецца Сонька. — Так і трэба было б, няхай даведаліся б, як мужык жыве і працуе. Гэта ім не чысценькія салончыкі. Мужыку пясок, спякота, смурод і ўсё, што ім праціўнае, на штодзень спадарожнічае. Трэба паказаць, як звычайны мужык жыве.

— Мы, аднак, ведаем як гасцей сустракаць, азываюся я. — І паглядзіце, колькі народу зваліла, ды не толькі з Махнатага. З усіх навакольных вёсак прыйшлі.

Усе паглядаюць у канец вёскі. Там ад крыжоў маюць над'ехаць госці. Камітэт павітальны хвалюецца, бо хацелі паказацца як найлепш. Некаторыя чакаючы прысесці хочуць, толькі няма на чым. Кажуць, такіх гасцей стоячы вітаюць. Вось, думаю, якую чыстасардэчную душу мае беларус. Ён усё аддаў бы, каб быць наймілейшым другому чалавеку. Хоча, каб аб ім кепска не гаварылі. Гмінная ўправа і аб прыгожых кветках пастаралася. Толькі замест хлебам і соллю хочуць павітаць г.зв. сэнкачамі, па меры дваццаць першага веку. Можа жанчыны развучыліся хлеб пячы? Яшчэ ў падарунку дарагім гасцям хочуць паднесці па вавёрачцы і саве, зробленых з бярозавых ветак. Вавёрачка сімвалізуе працавітасць і дбайнасць, сава — розум. Калі нашы госці возьмуць ад іх прыклад, тады зажывем багата і разумна.

Урэшце прыехала некалькі паліцэйскіх машын на сігналах. Пэўна яны ўжо едуць. Сапраўды, штосьці пад'язджае. Не, гэта нястомны селянін гной у поле вязе. Падскокваюць ахоўнікі, пэўна папракнуць яго і скажуць ехаць далей. Усе ахнулі і рагочуць. Неўзабаве прыязджаюць машыны, адна за адной. Ціпыня наўкола, як макам засеяў. Чаканыя госці вітаюцца з людзьмі. Спадарыня войт вітае дастойных, вялікіх гасцей, падносяць ім кветкі і падарункі, „Многае лета" спяваюць. Прэзідэнт і прэм'ер у людзі ідуць, паціскаюць некаторым рукі, пытаюцца аб тым і сім.

І вось уся сустрэча. Не болей паўгадзіны працягвалася. Людзі казалі, што каб не целаахоўнікі, гасцей не адпусцілі б яшчэ. А так, што зробіш? Як груганы скачуць яны кругом, быццам бы нехта з нас нядобры меў намер. Шкадавалі людзі, што коратка кіраўнікі дзяржавы гасцявалі. Не паспелі яны сказаць усяго, што на сэрцы ляжыць. А спраў назбіралася за чатыры гады многа. Больш было падрыхтоўкі, бегатні і мітусьні, чым самой сустрэчы. І тая прабегла, як нейкі сон.

— Выбараў, сустрэч, — кажуць людзі, — маем ужо па самае горла. Упрыгожваюць нам зараз вёску так, як даўней перад першым маем. Звечара адных партрэты вісяць, зранку ўжо другія твары з афішаў на цябе глядзяць. І кожны захваляе, які ён добры цяпер, заклікае аддаць голас на яго і яму паверыць.

— А вы, што думаеце? — пытаю свайго знаёмага.

— Што думаю? Вось, прэзідэнт маю руку паціснуў, мыць не буду яе. Няхай след ад яго як найдаўжэй астанецца.

— А я ўжо інакш думаю, — адазваўся сусед. — Няхай мяне і за нагу паціснe, але падумаю аднак, што мне прынеслі добрага апошнія чатыры гады? І пайду галасаваць усё ўзважыўшы як след. Многа да нас ужо прыязджала кандыдатаў у паслы. Не было толькі Сычэўскага і Антона Міроновіча.

— Сычэўскага! Што, не бачылі яго? Ён жа амаль у кожнай вёсцы фэстын правёў. Пра выбары пры кожнай нагодзе гаварыў. Шкада чалавека, трэба каб і ён у паслах пабыў.

— А колькі гэта ўсё каштуе? Аж цяжка ўявіць. Як будзем надалей так раскідацца, не хутка нам прыйдзецца, па-сапраўднаму пажыць.

Азваўся яшчэ хлапец малады:

— Найбольш нам адпаведны ў паслы Чыквін і Мірановіч. Яны людзі паважаныя, вучоныя, за такіх чырванець не будзем. Ну, дык давай іх выбіраць!

А то, напхаліся такія, што не вядома што з імі рабіць. Як пачне такі прамаўляць, то і сам не ведаеш, аб чым ён гаворыць і чаго хоча.

І ўсе згадзіліся ў адным: каб хутчэй выбары. Пара канчаць гэту балбатню. І так нічога добрага яна для нас не прынясе. Па выбарах аб чымсьці другім загавораць і чатыры гады на гэту тэму будзе спакой. А потым, „всё опять повторится сначала".

**Грыша Мароз**



*Агульнае шчасце.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Да наступнага разу

Хаця вынікі парламенцкіх выбараў будуць вядомы толькі познім вечарам у нядзелю, з пасольскім мандатам можна віншаваць ужо цяпер Яна Сычэўскага. Нягледзячы на вынікі выбараў у беластоцкай акрузе, высокая пазіцыя Сычэўскага на краёвым спіску Саюза левых дэмакратаў гарантуе бэгэкатоўскаму лідэру месца ў адным з пасольскіх крэслаў. Кандыдат Беларускага саюза Яўген Вапа, хаця знаходзіцца на краёвым спіску Уніі працы, не мае так камфартабельнай сітуацыі. Пра тое, ці будзе ён пaслом, вырашыць галасаванне не толькі на УП у маштабе краіны, але таксама і на Беласточчыне. Калі не заіснуюць нейкія фармальна-юрыдычныя перашкоды, поспеху можа чакаць таксама лідэр славянскай нацыянальнай меншасці Яўген Чыквін.

Гісторыя беларускай палітычнай актыўнасці на Беласточчыне даволі кароткая ў храналагічным сэнсе, але багатая ў падзеі, расколы, усялякія тактыкі і стратэгіі. Найчасцей г.зв. нашае асяроддзе ішло на выбары падзеленае на „беларусаў" і „праваслаўных". Выключэннем былі парламенцкія выбары ў 1993 годзе, калі ўсе аб'ядналіся ў Беларускім выбарчым камітэце. Вынік аднак быў аднолькавы. Беларускі ці, інакш кажучы, „наш" электарат масава прагаласаваў за лідэра спіска Саюза левых дэмакратаў Владзімежа Цімашэвіча. Хаця ўсе нашы — „камуністы", „дэмакраты", „праваслаўныя" — ішлі разам, навокал усялякія дзядзькі заклікалі іх: „Вам трэба аб'ядноўвацца, тады людзі будуць на вас галасаваць". Прагаласавалі, аднак, згодна з традыцыяй. Кампраметуючае паражэнне Беларускага выбарчага камітэта ў 1993 годзе зняло той бар'ер, які паўстрымоўваў беларускіх дзеячаў ад усялякіх саюзаў з польскімі партыямі. У адваротным, як здаецца, напрамку ішлі чаканні беларускага электарату. Людзі, якім бязмежна давяралі „нашы", расчаравалі вынікамі сваёй прысутнасці пры ўладзе. Ад нейкага часу адчувалася жаданне галасаваць на кагосьці „свайго". Як бы насустрач гэтым настроям з'явілася прапанова ў выглядзе Злучнасці славянскай нацыянальнай меншасці — праваслаўныя. Сацыёлагам пэўна нялёгка будзе акрэсліць характар гэтага ўтварэння, але безумоўна з'яўляецца яно квінтэсенцыяй менталітэту асноўнай масы „нашых людзей".

З другога боку ўваход БГКТ у кааліцыю з СЛД як бы канчаткова парадкуе стан, які існуе ўжо некалькі гадоў. Хаця Ян Сычэўскі і сёння можа сказаць, што палітыкай ён не займаецца, аднак цяпер будзе гэта гучаць малаверагодна нават для менш зарыентаванага ў палітычных гульнях тутэйшага беларуса. БГКТ ніколі не існавала і не будзе існаваць як самастойная палітычная сіла, але ў ролі сатэліта такой арганізацыі як СЛД можа быць даволі моцным фактарам у змаганні за галасы праваслаўнага электарату.

Беларускія арганізацыі, якія ўзніклі пасля 1989 года і аб'ядналіся ў Беларускім саюзе, з'яўляюцца альтэрнатывай перш за ўсё для маладшага пакалення. На жаль, адсутнасць нацыянальнай адукацыі вядзе да таго, што асіміляцыя, асабліва сярод маладых людзей, ідзе маланкавымі тэмпамі. Нават найбольш прывабныя лозунгі на беларускай мове не ўспрымаюцца людзьмі іншай культуры і нацыянальнасці. Паляк, хаця і праваслаўны, не надта разумее сімвалы, да якіх з пашанай ставіцца беларус. Беларуская нацыянальная ідэя яму зусім чужая. Цяжка таксама дагаварыцца тым беларусам, якія сваю беларускасць успрымаюць як акрэсленне нацыянальнасці, з тымі, для якіх гэтае самае абазначае толькі этнаграфічную групу сярод вернікаў праваслаўя. Для першых нацыянальная супольнасць — гэта твор этнікі, гісторыі і культуры, для другім — веравызнання. Таму калі двое людзей, якія называюць сябе беларусамі, гавораць пра сваю нацыянальнасць, часам бывае так, што кожны з іх што іншае мае на ўвазе. Лукашэнка таксама называе сябе беларусам, хаця ненавідзіць і знішчае ўсё, што беларускае.

Сярод беларусаў Беласточчыны няма, на жаль, ніякага аўтарытэту, які быў бы ўспрымальны для ўсіх груп нашага грамадства. Розніцы інтарэсаў паасобных лідэраў не дазваляюць нават на аб'яднанне сіл паміж праваслаўнымі славянамі і бэгэкатоўцамі, хаця ніякага ідэйнага разыходжання паміж імі няма. Так, аднак, выглядае сітуацыя кожнага грамадства, якое існуе ва ўмовах дэмакратыі. Бываюць толькі іншыя прычыны разнастайнасці. Грамадствы, якія маюць дэмакратычныя традыцыі, успрымаюць гэта як норму і ніхто нікому не ставіць у закід ягонай іншасці як нейкага злачынства. Каб не ўскладняць сабе жыцця, людзі безупынна шукаюць там нейкіх кампрамісаў, вызначаюць палі супольных інтарэсаў. Праўдападобна праз сто гадоў і ў нас так будзе.

**Яўген Міровіч**

Занатоўкі ўдзельніка ІІ З'езду беларусаў свету

# Беларусь, калі ж ты будзеш дома

*(заканчэнне; пачатак у 34 нумары)*

28 ліпеня г.г., на другі дзень пасля заканчэння ІІ З'езду беларусаў свету і святкавання 7-й гадавіны Дня Незалежнасці, пакінуў я Менск і падаўся ў родныя мне мясціны на Стаўбцоўшчыне. Даязджаючы да чыгуначнай станцыі Коласава і пасажырскага прыпынку ў Кучкунах давялося мне пабачыць пашкоджанні, які нанёс ураган, што прайшоў тут у канцы чэрвеня. Вялікія паласы лесу ляжалі паламаныя, векавыя дрэвы былі павырываныя з каранямі. Многія сяляне да гэтай пары не справіліся з рамонтам разбураных будынкаў. З вокна вагона былі відны калгасныя палі з палеглым збожжам.

Вось і Стоўбцы, раённы горад. Колькі ж успамінаў з ранняй маладосці ўсплыло ў памяці і адазвалася ў сэрцы ў гэты момант. Прыпаміналіся мне тыя юнацкія гады, калі за пару грошаў (было гэта да 1939 г.), атрыманых ад бацькоў на свечку, куплялася скрыта марожанае або абаранак у яўрэяў. Успомніліся акупацыйныя гады і цяжкая 12-гадзінная праца на вагонарамонтным дэпо, калі трэба было тэрмінова прыводзіць у парадак ваенныя эшалоны.

Сёння Стоўбцы і ваколіца моцна змяніліся. Горад перш за ўсё разбудаваўся, больш у ім дамоў, вуліц, прадпрыемстваў. З 8-тысячнага мястэчка ў 1940 годзе выраслі яны на 30-тысячны горад. Толькі сам Парк культуры і адпачынку ў цэнтры Стоўбцаў займае 5 гектараў плошчы. Раслі тут да нядаўна магутныя векавыя ліпы, дубы, клёны. Надалей пасярэдзіне парку высіцца бронзавы помнік правадыру сусветнага пралетарыяту Уладзіміру Леніну. Пасля развалу Савецкага Саюза былі спробы знесці гэты помнік, але ўлады не дазволілі, тлумачачы гэта тым, што быў ён узведзены ў 1947 г. па „волі народа". Былі таксама спробы нелегальна знішчыць статую: ноччу нехта адламаў адну руку, потым хтосьці адбіў кавалак пінжака. Па гэтай справе вялося расследаванне, абвінавачваліся „нацыяналісты-бээнэфаўцы", аднак віноўнікаў не знойдзена. Але чаго не здолелі ўчыніць людзі, зрабіў гэта ураган. Прыгожы да нядаўна парк ператварыўся ў кучу ветралому. Разбураны быў таксама і помнік Леніну.

Жыхары горада думалі, што помнік ужо канчаткова прапаў з краявіду горада. Аднак на другі дзень прыехаў вялікі кран і ўстанавіў статую „вождя" на сваё месца. Падчас гэтай аперацыі міліцыя пільнавала, каб жыхары не падыходзілі блізка. Затое мясцовая прэса потым паведаміла, што ветэраны вайны і працы самааднана аднавілі помнік Леніну. У наступную нядзелю настаяцель у царкве падчас пропаведзі сказаў наступнае: „В наши времена на наших глазах происходят чудеса. Вот через одну ночь после урагана восстал свергнутый стихией памятник Ленину и поселился на своёй площадке. Не чудесно это?" Дэталёвага тумачэння гэтага цуду бацюшка не праводзіў.

Сустрэўся я з былымі сябрамі з юнацтва і з працы ў дэпо, а дзякуючы машынам іхных нашчадкаў, наведаў некалькі мясцовасцей на Стаўбцоўшчыне. Былі мы ў Мікалаеўшчыне, Кісялёўшчыне, Новым Свержані, Сцяцках, Задвор'і, Адцэдзе, Кучкунах ды Яблынаўцы. Адведаў я таксама магілы сваіх крэўных і сяброў на могільніках у Яблынаўцы, Кучкунах і Новым Свержані ды запаліў там прывезеныя з Польшчы лампадкі. Вечны ім супакой...

Мае сябры і сваякі цікавіліся перш за ўсё эканамічнай сітуацыяй у Польшчы, меркавалі і гадалі калі паправіцца іхнае жыццё. Цяжка мне было тлумачыць гэтыя пытанні, бо я ж не палітык і не эканаміст. Гаварылі яны, што пара ўжо распусціць калгасы і пачаць арганізаваць прыватную сельскую гаспадарку. Але людзі баяцца гэтага, бо няма неабходных для такога гаспадарання прылад і машын, а сам трактар каштуе неверагодна дорага — 25-30 тысяч долараў. А і дзяржава ўсё робіць, каб не дапусціць да ліквідацыі калгасаў ды абмежаваць прыватную гаспадарку шляхам высокіх падаткаў, што давяло да банкруцтва некаторых смелых сялян.

Цяпер кожны калгаснік ці пенсіянер мае магчымасць атрымаць ад калгаса гектар зямлі і карыстацца ягонымі паслугамі і пасяўным матэрыялам узамен за адробак пры ўборцы ўраджаю. Такім чынам кожны селянін пападе ў залежнасць ад калгаса.

Гутарылі мы з сябрамі пра мінулагодні рэферэндум і аказаную сялянамі падтрымку Аляксандру Лукашэнку. Тут мае суразмоўцы мелі розныя меркаванні, хаця спосаб правядзення рэферэндуму быў аднаznачны. Напрыклад, на два тыдні да тэрміну рэферэндуму кожную хату наведалі члены выбарчых камісій, а былі гэта асобы з кіраўніцтва калгасаў: брыгадзіры, звеннявыя і дэпутаты сельсаветаў, якія прыносілі апячатаную ўрну і на месцы праводзілі галасаванне, каб не турбаваць сялян і пенсіянераў асабістай яўкай на выбарчых участках. Пры нагодзе тлумачылі, што для правядзення рэформаў прэзідэнту патрэбна агульнародная падтрымка, бо нацыяналістычны Вярхоўны Савет перашкаджае яму ў гэтым. Члены перасоўных камісій падказвалі, у якім месцы паставіць значок на бюлетэні, памагалі кідаць іх у скрынку. У такой сітуацыі вынік рэферэндуму не мог быць іншы.

Большасць сялян-пенсіянераў тужыць па брэжнеўскіх часах, па дзяржаве з таннай каўбасой і гарэлкай. У сённяшніх недахопах абвінавачваюць яны т.зв. дэмакратаў — Шушкевіча, Пазьняка, Кебіча. Маладое пакаленне — асобы, якія працуюць у гарадах ці вучацца ў ВНУ, галасавалі ў дзень рэферэндуму на выбарчых участках па сваёй волі, пераважна супраць пытанняў пастаўленых прэзідэнтам Лукашэнкам.

Вось у такі спосаб Лукашэнку і ягонай камандзе ўдалося ў чарговы раз абдурыць вясковае насельніцтва і выйграць рэферэндум.

Два дзянькі (28-29 ліпеня) на Бацькаўшчыне — у родных куточках майго дзяцінства і юнацтва наблізіліся да канца. 30 ліпеня было для мяне днём пакуты — развітання з яшчэ жывымі сваякамі, сябрамі. Ці прыйдзецца яшчэ сустрэцца з імі ў зямным жыцці? Цяжка было расставацца ды пакідаць родную старонку, а яшчэ цяжэй было апісаць усё пабачанае і пачутае мною на лісце паперы... Жыве Беларусь!

**Юстын Пракаповіч**

PS. У маіх успамінах „Жыццёвыя сцежкі", змешчаных у кніжцы „Лёс аднаго пакалення", пісаў я ў 1995 г. пра Кучкуны і рэчку Адцэдку, якой у тым часе ўжо не было. І вось вясною 1996 г. рэчка знайшлася — зноў плыве яна ў старым рэчышчы. Гэта не цуд, а вынік вываду ракетна-ядзерных установак з лясного масіву ля чыгуначнай станцыі Коласава. Такім вось чынам адрадзілася рэчка, у якой я ў дзяцінстве купаўся ды лавіў рыб і ракаў.

**Ю. П.**

# Рэвалюцыя ў школах

## ці толькі дыскусія?

Новы навучальны год — гэта прадвесце рэформы школьніцтва ў нашай краіне. Змены маюць тычыцца вучня. Пасля рэформы школа павінна не толькі навучаць маладога чалавека, але і рыхтаваць да жыцця. Як будзе з навучаннем беларускай мовы?

15 мая 1997 года міністр Ежы Вятр падпісаў новыя прадпасылкі рэформы польскага школьніцтва — „Новая школа". З самага пачатку навучальнага года пачалася ў настаўніцкім асяроддзі, і не толькі, дыскусія наконт змен. Прадстаўнікі міністэрства і куратарыяў заявілі, што правілы і формулы, якія вучні вывучалі ў школах, хутка забывалі, а праверка ведаў была павярхоўная. Пасля ўсіх зменаў трэба будзе вучыць маладога чалавека выкарыстоўваць школьныя веды ў рэальным жыцці. На ўроках вучні будуць маглі знаёміцца з рознымі дыетамі, будуць вучыцца, як адганяць сябра, які заахвочвае да гарэлкі, папяросаў ці наркотыкаў. Важнай стане падрыхтоўка да экалагічнага жыцця. Галоўнай задачай настаўніка зробіцца праверка ўмеласці вучняў, а не іх ведаў. „Прадметныя настаўнікі" хутка стануць больш універсальнымі. Гэта значыць, што вучні на адным уроку будуць магчы знаёміцца з роднай літаратурай, гісторыяй сваёй краіны, са звесткамі пра вядомага мастака ці музыку. На другім уроку настаўнік будзе магчы весці адначасова супольныя заняткі па матэматыцы, фізіцы ці хіміі. Будзе патрабавацца супрацоўніцтва ўсіх настаўнікаў. Тут адразу ўзнікаюць пытанні:

— адкуль грошы на гэтыя рэформы?

— ці можна так хутка падрыхтаваць настаўнікаў да такіх велізарных зменаў?

— чаму рэформа пачынаецца перад парламенцкімі выбарамі?

Адказы даволі складаныя, нават для прадстаўнікоў міністэрства ці куратарыі. Ведаюць яны, што вучні, паводле новай сістэмы, пойдуць у падставовыя школы ўжо ў 6 гадоў і будуць там вучыцца 6-7 гадоў (ёсць 2 варыянты). Пасля будуць магчы павышаць свае веды ў абавязковай трохгадовай гімназіі і падавацца далей у агульнаадукацыйны ліцэй ці ліцэй з нейкім ухілам.

У простага назіральніка змен у нашай краіне ўзнікае пытанне: ці гэта можа нейкая рэвалюцыя? Адказам з'яўляецца рэчаіснасць у нашых школах. У Беластоцкім ваяводстве ніводная школа не прыступіла добраахвотна да эксперыментальнай рэформы. Адзінымі зменамі будуць уступныя экзамены ў сярэднія школы (у іншай форме). Рэальна паніжаюцца зарплаты настаўнікам сярэдніх школ, якія вядуць заняткі ў матуральных класах. На працягу некалькіх месяцаў яны мусяць адпрацаваць бясплатна заняткі з мая і чэрвеня. Парламенцкія выбары прадвяшчаюць змены ў Сейме і Сенаце, а новы ўрад можа ўводзіць зусім іншыя рэвалюцыі.

Нас цікавіць, ці змены ў школе не спрычыняцца да абмежавання навучання беларускай мовы.

**Аляксей Мароз**

# Вітай, школа!

Ужо пяты раз званок апавясціў пачатак школьнага года ў новым будынку Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Сёлета вучыцца тут 524 ліцэістаў у 18 аддзелах (у класах матэматычна-фізічнага, біялагічна-хімічнага і агульнага профіляў). Займаецца з вучнямі 33 настаўнікаў, з ліку якіх 5 працуе на няпоўнай стаўцы. Педагагічныя кадры ў ліцэі наогул маладыя. Найбольшы настаўніцкі стаж мае Васіль Сакоўскі, які адзначае 35-годдзе сваёй педагагічнай дзейнасці. Сёлета настаўніцкія кадры папоўнілі германістка Ева Васілюк і англістка Агнешка Пердыён. У школьнай абслузе працуе 17 чалавек. Сталовай карыстаецца каля 400 асоб.

Дырэктар ліцэя Яўген Сачко сказаў мне, што падчас канікул не было патрэбы рамантаваць школу і за гэты час былі падрыхтаваны панелі для калідора на першым паверсе. На канікулах спартыўны зал даваў прыбытак школе, паколькі арандавалі яго сарганізаваныя дзве групы. У сувязі з вялікай колькасцю кандыдатаў і добрымі вынікамі на ўступных экзаменах, у ліцэі быў адкрыты дадатковы аддзел першага класа. Вядзецца падрыхтоўка стварыць у будучым годзе два новыя профілі: спартыўны з баскетбольным ухілам і класы з пашыранай музычнай праграмай. Гэты апошні профіль патрэбны перш за ўсё беларускаму самадзейнаму руху, які адчувае недахоп інструктарскіх кадраў. Прытым бярэцца пад увагу і тое, што ў горадзе няма музычнай школы.

У планах школы намечаны наладжанне больш сістэматычных кантактаў з белліцэем у Бельску-Падляшскім, арганізацыя краязнаўчых рэйдаў пад лозунгам „Давайце знаёміцца з нашай Малой Айчынай", супрацоўніцтва з Беларускім музеем, галоўным чынам дзеля завязання кантактаў з народнымі мастакамі, грамадскімі дзеячамі, людзьмі культуры і навукі з Рэспублікі Беларусь. У школе будуць сарганізаваны эстрадныя калектывы, тэатральны гуртак, адбудзецца школьная лінейка для ўшанавання 80-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Прадугледжаны таксама сустрэчы з дзеячамі культуры і навукі з Беларусі і з асяроддзя беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Апрача гэтага ў ліцэі будуць адбывацца канцэрты і прамоцыя таленавітай моладзі. Дырэктар ліцэя і настаўнікі беларускай мовы паставілі сабе за мэту актывізаваць моладзь да ўдзелу ва ўсіх конкурсах, фестывалях і мерапрыемствах, якія адрасуюцца беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Жадаю поспехаў!

**Славамір Кулік**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Родная мова ў Беластоку



**З 1 верасня г.г. у Пачатковай школе н-р 4 у Беластоку пачаліся ўрокі беларускай мовы.**

— Добры дзень! Добры дзень! — радасна гаварылі на прывітанне першакласнікі. У час перапынку яны спецыяльна забягалі ў клас, каб яшчэ раз сказаць „Добры дзень” сваёй настаўніцы Аліне Ваўранюк.

Урокі роднай мовы ў Беластоку вядуцца з першага класа. Дзеткі сустракаюцца тры разы ў тыдзень.

— Яны ўсё разумеюць, — кажа настаўніца.

Урокі вядзе яна поўнасцю па-беларуску.

— Гэта дазволіць зразумець ім, што беларуская мова ў школе з'яўляецца натуральнай справай.

Мая Більмін, Эля Юшчук і Міхась Каліна — выпускнікі беларускага прадшколля. Наталька Швед і Кароль Заборскі сутыкнуліся з беларускай мовай у сям'і.

— У першым класе мы будзем вывучаць песні, вершыкі, гуляць у цікавыя гульні. У другім класе пазнаёмімся з літарамі, — кажа настаўніца.

У час маёй пабыўкі дзеткі гулялі ў „коціка і мышку”. Першакласнікі вельмі хутка вывучылі словы новай гульні.

*Тут на лаўцы*
*Дзеці селі,*
*Тут вароны*
*Прыляцелі.*
*Тут прыселі*
*ля варот.*
*Гэта маці,*
*Гэта кот!*

Пазней „кот” шукаў манету, якую падкінула ў далоні дзяцей „маці”. Было многа радасці.

Мае сябры ўспомнілі таксама вершык „Калі ласка — дзякуй”. Паказалася таксама, што ўмеюць яны пасвойму называць ужо колеры. Мая Більмін здзівіла ўсіх, бо прачытала яна па-беларуску імёны сваіх сяброў.

— Неўзабаве падрыхтуем інсцэніроўку „Свята восені”. Пазней будзе свята зімы, вясны, — пералічвае Аліна Ваўранюк.

Першакласнікі маюць таксама супрацоўнічаць з сябрамі з беларускага садзіка.

— Мы з Эляй сядзім за адной партай, — кажа Мая Більмін.

Дзеткі супольна гуляюць на перапынках.

— У школе лепш, як у прадшколлі, — кажа Міхась Каліна.

Хлопчыку падабаюцца тут прасторныя калідоры, на якіх можна гуляць у хованкі, і новыя кніжкі.

ПШ н-р 4 знаходзіцца ў цэнтры Беластока. Дарэчы, яна па-суседску з беларускім прадшколлем.

Бацькі дзетак спецыяльна давозяць сюды сваіх першакласнікаў для роднай мовы. Раней яны доўга змагаліся, каб пачаць такое навучанне. Зараз не лянуюцца давозіць сваіх малечаў з далейшых кварталаў горада. Яны разумеюць, што без ведання ўласнай культуры немагчыма быць паўнацэнным чалавекам.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

*На здымку: першакласнікі Эля Юшчук (злева), Міхась Каліна, Наталька Швед, Мая Більмін, Кароль Заборскі з настаўніцай Алінай Ваўранюк і сп. Пятром Юшчуком (татам Элі).*

## Польска-беларуская крыжаванка № 38

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kłamstwo | | Zachód | | ▼ | Pan | ▼ | Piękno | ▼ |
| | | Willa | Dym | | Kielich | | Juka | |
| Koły-sanka | ▼ | Łąka | ▼ ▶ | | ▼ | | ▼ | |
| ▶ | | ▼ | | | | | | |
| Numer ▶ | | | | | | As | ▶ | |
| ▶ | | | Damka ▶ | | | | | |
| | | | Krok | | | | | |

## Верш Віктара Шведа

### Сяміголдзе

Вось і Наталлі сямігоддзе,
Кажа: — Я не дзіця, а моладзь.
З вялікім захапленнем ходзіць
У з беларускай мовай школу.

Дзяўчынкі маладая памяць
Засвоіць словы роднай мовы
І неўзабаве з землякамі
Будзе ўжо размаўляць талкова.

Прад ёю доўгая дарога
Шматгадовае навукі.
Вучыцца трэба пільна, многа,
Добраахвотна, без прынукі.

Вучыся, мілая дачуся,
Асвойвай пастаянна веды,
На славу нашай Беларусі,
На радасць маці, бацьку Шведу.

*15.IX.1997 г.*

# Ваяцкі здрой

***(працяг; пачатак у 36 нумары)***

Аднойчы здарылася так, што непагляднаю процьмаю насунуліся ворагі — іхняй раці канца і краю не было відаць. Біліся, змагаліся з імі малойцы-ваяры — усе палеглі, а варожай навалы паўстрымаць не здолелі. Толькі аднаго-аднюсенькага ваяку маладзюсенькага вараны конь з бою вынес.

Імчыць конь, як віхор, храпе з натугі, пена з яго плахтамі валіцца ды траву-мураву ўсцілае. Схіліўся ваяр і ў самае вуха свайго збаўцы шэпча:

— Нясі мяне, конічак, нясі, варанenькі, да самай Гародні... Там князя нашага Вітаўта Вялікага папярэдзіць трэба, што ворагі чорнай хмарай на нашу зямлю валяцца. Няхай князь ваяроў-абаронцаў падымае...

Чуе конь, што ягоны гаспадар ледзь на сядле трымаецца, ад ранаў млее. Спяшаецца конь, усе сілы напружвае. А тут яму дарогу рэчка перагарадзіла. Зморанаму каню яе аніяк не пераадолець. Спыніўся ён на беразе ды журботна заіржаў.

Ачнуўся вершнік, глядзіць: рэчка цячэ, а каля яе берага здрой б'е ды ў бяздонны вір уліваецца. Бязвольна ссунуўся ён з сядла, падпоўз да берага і засмаглымі вуснамі прыпаў да здроюю. Прагавіта глытнуў раз, глытнуў другі, а калі глынуў трэці раз — раптам пахіснуўся ды паваліўся проста ў бездань віру. Закружыўся вір, зашумеў хваляй ды малайца-ваяра засмактаў у сваю бездань.

Бачыць конь, якая бяда сталася. Заіржаў ён роспачна і кінуўся ў ваду ратаваць гаспадара з прорвы. Але ж закруціўся вір, успеніўся ды праглынуў і каня.

І ўжо некаму было вестку князю занесці, пра варожае нашэсце папярэдзіць. Ніхто ваяроў на абарону роднай зямлі не склікаў. Гулялі ворагі процьмаю, у нявольнічыя путы людзей вязалі, дабро расцягалі, зямлю попелам усцілалі.

І ўзбурыўся вір, на няшчасці чалавечыя гледзячы, усхадзіўся і аж на стромкі бераг пеністаю хваляю хліснуў. І з'явіўся з бездані той самы юнак на кані. Але ўжо і не той самы: бо велічны і здаровы, на імклівым вараным жарабцы з развеянай грывай.

***(заканчэнне будзе)***

**Мікола Гайдук**
*Малюнкі Пятра Дзямянюка*



Талон „Зоркі” № 38
21.09.1997

# Весялун

*(балгарская казка)*

Жылі сабе тры браты. Старэйшыя былі багатыя, а малодшы бедны. Працаваць ён не вельмі любіў, але затое быў вясёлы, усё смяяўся і заўсёды ўмеў пажартаваць. Таму і празвалі яго ўсе Весялун. Ён хадзіў па людзях, смяшыў іх, весяліў і яны давалі хто што можа. Так ён і жыў. Хіба шмат яму аднаму патрэбна? Ды яму многа і не трэба было, яму і так жылося добра.

Неяк раз пайшоў Весялун да братоў і папрасіў у іх дзесяць леваў*. Яны далі. Купіў ён на гэтыя грошы мышаня. Праз некалькі дзён пайшоў ён зноў да братоў і папрасіў яшчэ дзесяць леваў. Браты над ім пасмяяліся:

— Навошта табе грошы даваць, калі ты іх на вецер кідаеш? Купляеш мышанят, каб гуляць з імі, як малое дзіця.

Пасмяяліся, але грошы ўсё ж такі далі. Купіў Весялун сабе кузурку. Прайшло некалькі дзён, пайшоў ён да братоў і ў трэці раз папрасіў у іх дзесяць леваў. Браты раззлаваліся.

— Колькі разоў ты ў нас будзеш грошы прасіць? Ні сораму ў цябе, ні сумлення! Хоць бы траціў іх на нешта талковае, а то купляеш мышэй і кузурак! Хто гэта бачыў за кузурку столькі плаціць? Дасі табе грошай, ты іх зноў попусту растраціш! Не ўмееш грошай ні зарабляць, ні берагчы!

— Дайце мне ў апошні раз, больш не буду прасіць!

Далі яму браты грошы, каб толькі адчапіўся. Купіў Весялун за іх барабан. Закрыўся ў доме. Тра-ля, тра-ля-ля — цэлы дзень гуляў і скакаў са сваімі жывёлкамі. Нават есці не выходзіў. Усе ўжо падумалі: памёр Весялун з голаду.

А ён навучыў за гэты час мышаня і кузурку дужацца, цалавацца і скакаць. І ўжо тады пайшоў гуляць і весяліць людзей. Куды ён не прыйдзе, усюды народ збягаецца: паслухаць, паглядзець на яго жывёлак і пасмяяцца.

А ў цара ў іх царстве была дачка. І была яна заўсёды сумная. Ніколі ў жыцці не смяялася. Цар абвясціў усяму свету, што аддасць дачку за таго, хто яе рассмешыць. З усіх канцоў прыходзілі смяшыць царскую дачку, але нікому гэта не ўдавалася. Царэўна сядзела ўсё такая ж журлівая і праганяла ўсіх аднаго за другім.

Раз Весялун гуляў, а яго жывёлкі скакалі. Як звычайна вакол яго сабралася шмат народу, усе смяяліся да ўпаду. Міма праходзіла бабулька. Паглядзела, пасмяялася і сказала:

— Вось хто царскую дачку рассмешыць! — І расказала бабулька Весялуну, што цар абяцаў аддаць сваю дачку за таго, хто яе пацешыць.

Пайшоў Весялун да царскага палаца, спыніўся пад вокнамі і пачаў на барабане граць. Народу збеглася відзьма-нявідзьма. Пачула царская дачка смех, нахмурылася і выглянула ў акно, каб усіх прагнаць. Але загледзелася, сама таго не жадаючы, і засмяялася над Веселуном і яго жывёлкамі. Пачуў цар, што яго дачка смяецца, выйшаў паглядзець што здарылася. Пасмяяўся разам з усімі і выдаў дачку замуж за Веселуна. Весялун паклікаў братоў жыць з імі ў палацы. Усе былі вясёлыя, задаволеныя і радасныя, а больш за ўсіх царская дачка.

*Пераклаў з балгарскай мовы*
*Валерый Бабей*

*левы — балгарскія грошы.

# Першая сусветная вайна на Беларусі

У жніўні 1914 года пачалося ўзброенае змаганне каланіяльных імперыяў за новы падзел свету. Супраць палітычна-ваеннага блока дзяржаў, аб'яднаных вакол Расіі, Францыі і Вялікабрытаніі, выступілі Нямеччына і Аўстра-Венгрыя. Пасля ў ваенную авантуру ўключыліся Злучаныя Штаты Амерыкі і Японія. Дзесяткі мільёнаў маладых людзей рушыла змагацца за пашырэнне ўплываў свае краіны. Пару соцень тысяч беларусаў было мабілізаваных у царскую армію і пасланых на ўсе франты, дзе змагалася рускае войска.

У ліпені 1915 года руская армія была разбіта немцамі і вымушана пакінуць Польшчу. У жніўні пачалося вялікае нямецкае наступленне, у выніку якога палова Беларусі апынулася пад іх кантролем. У кастрычніку фронт стабілізаваўся амаль на два гады на лініі Дзвінск—Баранавічы—Пінск. У выніку расейскай прапаганды амаль два мільёны праваслаўных жыхароў заходняй Беларусі пакінула свае вёскі і мястэчкі і падалося ў бежанства. На акупаванай тэрыторыі немцы дазволілі ўсім пражываючым там народам адкрываць свае школы, выдаваць газеты, весці палітычную дзейнасць. Беларусы, якіх нацыянальнае адраджэнне пачалося пры канцы XIX стагоддзя, апынуліся ў сітуацыі калі хутка трэба было вырашаць пра форму існавання народа. Некаторыя палітыкі прапанавалі змагацца за аўтаномію ў межах расейскай імперыі, другія — за адраджэнне федэратыўнай беларуска-літоўскай дзяржаўнасці. Большасць, аднак, пачынала думаць пра сваю незалежную краіну. Такім самым шляхам фарміравалася палітычная беларуская думка на другім баку фронту, на тэрыторыі кантраляванай расейскай арміяй. Герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг сталі неадлучнымі сімваламі беларускіх установаў і арганізацый.

# Ёсць яшчэ ракі!

Як шмат гаворыцца аб тым, што прырода гіне, рэкі, азёры і моры забруджваюцца, што раз меншае ў іх рыбы, а ўжо аб раках дык няма што і гаварыць.

Паўночна-ўсходні рэгіён Польшчы, у якім мы жывём, з'яўляецца найчысцейшым закуткам прыроды ў нашай краіне. „Тата, тут паветра не відаць!" — сказаў адзін хлопчык са Шлёнска, выйшаўшы з цягніка ў Беластоку. І сапраўды, паветра тут чыстае і празрыстае. Мы, аднак, гэтага не заўважаем, бо чыстае яно заўсёды.

У нашым рэгіёне шмат звяроў у лясах, бабры на рэках будуюць свае „плаціны", у азёрах яшчэ шмат рыбы, а да таго ж і рыбагадоўчыя гаспадаркі разводзяць рыбу і ўпускаюць яе ў азёры і рэкі, каб было яе там яшчэ больш, ды каб вудзільшчыкі і рыбакі мелі што лавіць, а мы — што есці.

Ёсць і ракі. Даўным-даўно жылі ў рэках і азёрах паўночна-ўсходняга рэгіёна ракі двух гатункаў, якіх называлі шляхетнымі: **балотны**, што жыў у ставах і малых азерцах, і **рачны**, які жыў не толькі ў рэках, але і ў большых азёрах.

На рубяжы XIX і XX стагоддзяў адзін нямецкі баўэр пачаў гадаваць у сваіх ставах, што знаходзіліся ў даліне ракі Одры, прывезеных з Амерыкі ракаў, якія маюць на сваім панцыры папярочныя палоскі чырвана-ватага колеру. Гэтыя ракі, якіх пачалі называць **амерыканскімі** ці **паласатымі**, шырока распаўсюдзіліся па нашай краіне, выцясняючы ранейшыя шляхетныя гатункі рака. Гэты рак быў больш непераборлівы, чым шляхетны, і яму забруджванні, якія несла цывілізацыя, не перашкаджалі. Таму поўна яго не толькі ў ставах, рэках і азёрах, але і ў глінянках, і ў меліярацыйных равах.

Многа ўсюды гэтых ракаў, але яны крыху меншыя і не такія смачныя, чым шляхетныя гатункі рака.

У пяцідзесятых гадах у Еўропу (спачатку ў Швецыю) быў прывезены з Амерыкі яшчэ адзін гатунак рака, які меў большыя шчупальцы і больш мяса. Ужо больш дзесяці гадоў яго разводзяць і ў Польшчы. Называюць яго **сігнальным**.



Менавіта гэтых ракаў трымае Адрыяна ў місцы і ў руцэ. Іх прывезлі з ваколіц Гіжыцка, а яе мама іх зварыла і пералажыла ў міску з кропам. Выглядае, як букет, праўда? А смачныя былі...

**Ада Чачуга**



# Браць прыклад з Віктара Шведа...

*Слова будзеш каваць...*
Мікалай Панфілюк

Невялічкі літаратурны зборнік *Плыву морам майго жыцця* — плён II Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Увайшлі ў яго выбраныя творы 32 (з 34) аўтараў-удзельнікаў конкурсу ў чатырох катэгорыях — дзяцей, моладзі і дарослых, а таксама аўтараў, якіх творы напісаны ў „народным” стылі. Некаторыя аўтары вастрылі ўжо пяро на старонках „Зоркі” і „Парнасіка” ў „Ніве”, хоць не належаць да ніякіх творчых згуртаванняў. Як сказаў старшыня конкурснай камісіі Ян Максімюк, зборнічак „служыць заахвочанню для далейшай працы над літаратурным словам” аўтараў, якіх творчыя выказванні маем надзею сустракаць на старонках беларускага друку.

Адзін з найлепшых твораў у зборніку — спелы верш вучаніцы Юстыны Каралько з Бельска. Ён — у пэўным сэнсе падсумаванне і творчых, і жыццёвых дарог чалавека, які шукае свайго месца ў жыцці:

*не хапае мець вочы каб бачыць*
*хто бачыць цемру*
*ён як сляпы*

*тыя што не ў няволі —*
*не абавязкова вольныя*
*злыя людзі*
*рабы гарачых пачуццяў*

*імкнуцца да мэты —*
*не значыць дайсці*
*дарога часта ўрываецца*
*і бяда заблуднаму падарожніку*

*не кожны паэт — хто піша вершы*
*думка высыхае і лісток паліць жар*

Другім і іншым аўтарам, якія ў сваім творы задумоўваецца над вершатворствам і адчытаннем паэзіі ёсць Мікалай Панфілюк. Ён лічыць, што трэба *пісаць верш умела і ўсім зразумела*. А сама паэзія ёсць для таго, *каб усюды гучала і нам сілы давала*. І не можа так быць, што *зборнік ляжыць, аж закурыцца*. Літаратура павінна быць для чытача, *з сюжэтам адкрытым, а не моракам закрытым*.

Сярод аўтараў бачым вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў падставовых школах і ліцэях, людзей з вышэйшай адукацый і сялян; настаўнікаў — Алега Каламійца, Славаміра Куліка, інжынера Уладзіміра Сабешука, электрыка Уладзіміра Саўчука, філолага-беларусіста Яўгена Бялькевіча, санітарку Аўрору-Ірэну Лукшу, палітыка Пятра Крука, працаўніцу грамадскай апекі Аліну Леанеўскую, пісьманосца Мікалая Панфілюка, сялян Мікалая Лук’янюка, Марыю Манаховіч, Вольгу Анацік, мастачку-аматарку пенсіянерку Марыю Пень... Сярод вучняў вылучаюцца Юстына Каралько, Мілена Роля (вельмі сімпатычныя і мастацка спраўныя вершы для дзяцей), Анна Пракапюк (фантастычнае апавяданне), Жанэта Роля, Іаанна Масайла (з яе верша ўзяты радок, які стаў загаловкам зборніка), Тамаш Саевіч (пад выразным уплывам творчасці Надзеі Артымовіч). Шкада, што і ў гэты раз аўтары неяк баяліся выказацца ў прозе, і празатарскія творы не разглядаліся ў аддзельнай катэгорыі. Вельмі вылучаюцца апавяданні Аліны Леанеўскай пра трагічнае ў жыцці, напісаныя простай, добрай мовай. Немагчыма іх чытаць без хвалявання. Цесна словам, шырока думкам — так можна сказаць, чытаючы кароценькія творы „Мурка” і „Буслік”. А Аўрора-Ірэна Лукша, падобна як і ў папярэднім конкурсе, запрапанавала зноў фантастычнае апавяданне („Сусветны Суд”), у якім рэчаіснасць цесна пераплецена з фантастыкай. Так як і ў апавяданні Ані Пракапюк „Гісторыя ў Дзень святога Валянціна”. Заўвага і да Аўроры, і да Ані, і да іншых аўтараў: шмат што залежыць ад таго, як аўтар ставіцца да свайго твора, прадстаўленага на разгляд камісіі. Ці ён сапраўды папрацаваў над ім — і над слоўнікам, і над стылем, ці адважыўся пракансультавацъ яго з кімсьці, каму давярае, і ці нават... акуратна яго перапісаў або аддрукаваў! Праз неахайнасць някепскі Анін твор шмат страціў у вачах першых чытачоў, а праз разяватасць аўтара вылучаныя тэксты Юркі Буйнюка ледзь не былі выключаны з конкурсу і не апынуліся ў сметніцы! Так што — хто хоча сказаць штосьці сваё на сваёй роднай мове — няхай рыхтуецца, працуе над тэкстамі, чытае іншых і сур’ёзна падыходзіць да таго, што напісаў і хоча даць іншым.

**Міра Лукша**

# Услед за „Жывым словам”

**Сёмы раз з лёгкай рукі Яна Морданя вандруе па Беласточчыне народны тэатр чытальнікаў „Жывое слова” пад кіраўніцтвам Алены і Юрася Чарэнкаў з Мінска. Што кліча іх у дарогу? Чаму яны прыходзяць сюды? Адказ вельмі просты. Разам з маладымі вандроўнікамі...**

... Дакраніся да свайго шчасця. Ціха, непрыкметна, каб не спужалася яно моцнага дотыку далоняў, каб не згасла пад іх напружаным дакрананнем.

Людзі баяцца шчасця. Адны самі ад яго ўцякаюць, ад другіх гэты цёплы аксамітны камочак збягае далёка-далёка. Ідзі за ім наперад, калі хочам быць шчаслівым: праз сонца і дождж, спякоту і гарачыя стрэлы маланкі. Ён заўсёды будзе наперадзе. Але, калі ведаеш, што шчасце недзе там, за сінімі аблокамі далягляду, кожны крок стане шчаслівым. І ўсе людзі адчуюць, што вындроўнік, што крок за крокам ідзе з рукзаком за спіной, нясе ў сваёй душы, руках, заплечніку часцінку шчасця, і ветліва ўсміхнуцца яму.

— Паглядзеў я на вас, аж жыць захацелася, — сказаў адзін з жыхароў вёскі Збуч вандроўнікам, імя якім — народны тэатр чытальнікаў „Жывое слова” Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.

Для „Жывога слова” аксамітны камочак, пра які я казала напачатку, — мэта. Калі ў чалавека ёсць мэта, хочацца жыць і быць шчаслівым. Не абавязкова ісці за шчасцем у далёкі свет. Яно ёсць тут, у кожнай беларускай вёсачцы на Беларусі і на Беласточчыне. Часам у людзей душа баліць, калі бачаць яны шчаслівыя твары маладых вандроўнікаў, хлопцаў і дзяўчат з „Жывога слова”. З дапамогай „жываслоўскай” чароўнай палачкі-слова, яны ўспамінаюць час маладосці, калі самі спявалі і танцавалі не горш за вандроўных артыстаў.

Не дае сонейка доўга спаць спевакам і музыкантам. Кліча іх новая вёска, са сваімі жыхарамі, звычаямі, паданнямі і легендамі. Не дзіва, што пасля кожнай пройдзенай вёскі „дзяржавы” рукзакі становяцца больш цяжкімі. Хлопцы і дзяўчаты не толькі дораць свой скарб — беларускае слова, але ўбіраюць ў сябе шчырыя і чысцюткія, як сляза, словы Беласточчыны. Так, што напрыканцы вандроўкі са слёз-слоў атрымалася мора. Між іншым, такую назву мела апошняя, шостая вёска на трасе.

Першая празрыстая „слязінка” ў Чыжоўскай гміне — вёска Кленікі, жыхарам якой вельмі спадабалася доктарка з „жываслоўскай” мініяцюры.

Вёска Курашава доўга не адпускала са сцэны дуэт „Вясёлы люд”, які спяваў „шатландскія прыпеўкі”. Свае таленты хлопцы з вёскі дэманстравалі вечарам пры вогнішчы. Аказваецца і яны могуць спяваць і танцаваць. Усю вандроўку „жываслоўцы” ўспаміналі курашаўскіх спевакоў, якія з чыесці лёгкай рукі сталі называцца „Незабудкамі”.

Расстаючыся з жыхарамі Шастакова сапраўды плакаць хацелася. А запрашэнне „Прыходзьце да нас у святліцу” ў рэшце рэшт стала прарочым. У светлым і чыстым шастакоўскім клубе душа спявала і быццам ачышчалася.

Колькі загадак, таямніц, дабрыні і шчырасці хавае зямля Беласточчыны і жыхары яе! Не хацелася зыходзіць з гасціннай вёскі Збуч. Можа яшчэ і таму, што наперадзе апошні дзень, а за ім стануць гісторыяй шэсць дзён, шэсць вёсак-„слязінак” Чыжоўскай гміны. Застануцца ў мінулым прыхіленыя да зямлі беларускія хаты, прыдарожныя камяні, мяккая трава, сустрэчы з паэтамі Віктарам Шведам і старой знаёмай паэткай Зосяй Сачко, сябрамі тэатра Янам і Юлітай Хадакоўскімі. Арганізатар вандроўкі Ян Мордань будзе чакаць наступнага года, калі „Жывое слова” восьмы раз шчаслівым крокам ступіць на зямлю Беласточчыны ўслед за аксамітным мяккім камочкам — шчасцем.

А можа група з дваццаці юнакоў і дзяўчат з рукзакамі і ёсць гэты аксамітны камочак, які ціха і непрыкметна коціцца па дарогах і дорыць людзям салодкае беларускае слова? Спыніцеся каля іх на імгненне і ... дакраніцеся да свайго шчасця.

**Таццяна Лукашэвіч**

# Дубы ў музеі

— Цар-дуб — гэта сухое дрэва, але ў ім столькі сілы і чалавечай драмы. Кожны, хто яго пабачыць, гэта адчувае, — заяўляе ўсхваляваным голасам Віктар Кабац. — Для мяне Белавежская пушча мае характар лесу, якога чалавек не павінен у які-колечы спосаб змяніць сваёй дзейнасцю, каб захаваўся ён для ўнукаў і праўнукаў.

Разам з мастаком Віктарам Кабацам уваходзім на ягоную выстаўку „Дубы, дубы”, якая знаходзіцца ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Гледзячы на рысункі вышэйзгаданага аўтара, стварaецца ўражанне як бы мы знаходзіліся ў дуброве. Толькі лепш прыглядзеўшыся можна заўважыць, што незвычайнасць кожнага дуба падмечана ў розныя поры года. Кожны дуб мае свой непаўторны характар, сваю душу. Цікаўлюся, як выконваліся гэтыя працы.

— Рысункі былі роблены непасрэдна ў пушчы. Працуючы трэба спяшацца, бо выконваюцца яны тушшу на мокрай паперы і калі папера высахне, спыняецца эфект працы і трэба канчаць, — кажа аўтар.

— На маю думку, з кожнага дуба ззяе магутнасць і індывідуальнасць, — гавару пра свае ўражанні.

— Так, кожны дуб мае свой характар, які кідаецца ў вочы — інакшы, чым у іншых дрэў. Бяроза ці елка больш падобны да сябе. Хто прыглянецца да дуба, пабачыць яго індывідуальнасць, якую можна выявіць мастацкімі сродкамі. Канцэпцыя выстаўкі была такая, каб паказаць магутнасць і душу кожнага дуба. Уражвае экспансія, якой карыстаецца ён у лесе. Як бачыце па працах, расце высокі з адгалінаваннямі ў баку, — захапляецца тэмай размовы субяседнік.

— Ранейшыя тэмы Вашых прац таксама звязаны з пушчай, — успамінаю пра даўнейшыя выстаўкі.

— Ужо дваццаць гадоў галоўнай тэмай маіх прац з’яўляецца Белавежская пушча і хіба гэтак будзе да канца. Пушча зачароўвае тым, як жыве дрэва. Дагэтуль знайшоў я сваю канцэпцыю да сасны і дуба. Сасна, напрыклад, заварожвае тым, што яна, як натуршчыца ў пушчанскім асяроддзі, амаль у чырвоных колерах, — уцягнуўшыся ў дыскусію, ловіць у думках вобразы сваіх прац аўтар.

— Феномен для мяне — гэта Лёнік Тарасэвіч, які мае свае загоны, з якіх вырас. Я хачу мець такую ж сваю пушчу, — з гордасцю дадае суразмоўца.

— Ведаю, што Вы таксама прыхільнік аховы пушчы, — бачу што ляжаць у зале лістоўкі Таварыства аховы Белавежскай пушчы.

— Так, я ва ўправе гэтага таварыства, якое вядзе намаганні ў напрамку аховы пушчы ад грабяжу чалавека, каб людзі маглі пабачыць прыгажосць і багацце нязмененага лесу. Дошкі з дубу не прадстаўляюць сабой ніякага багацця, — мастак хвалюючыся пераўтвараецца ў змагара і паглядае на дубовае абсталяванне залы. — Разам з іншымі мастакамі Гайнаўкі запрашаем мастакоў Беласточчыны арганізаваць выстаўкі ў музеі.

Ад спадара Кабаца даведаўся я, што падпісана дамова з управай музея на продаж мастацкіх прац.

— Пры галерэі ў Гайнаўцы хочам сарганізаваць гурток беларускіх мастакоў, каб маглі яны ўвайсці ў Беларускі саюз і там дабівацца сваіх правоў, — выказвае турбаванне сваіх сяброў Віктар Кабац.

Адыходзячы з выстаўкі ўсюды ў музеі можна было пабачыць дуб.

Які дуб найпрыгажэйшы? — ацэнку пакідаю наведвальніку выстаўкі.

**Аляксей Мароз**

# Палеміка

*Białystok, dnia 2 września 1997 r.*

**Pan Eugeniusz Mironowicz**
**Redaktor Naczelny „Niwy”**

W „Niwie” nr 22 z 1 czerwca, w tekście „Выбарчая панарама Беласточчыны” przedstawiłeś swój sposób widzenia problemów środowiska prawosławno-białoruskiego w kontekście zbliżających się wyborów do parlamentu. Pogodziłem się już z tym, że „Niwa” i Ty osobiście staracie się zdyskredytować moją osobę. Nie podejmowałem publicznej dyskusji ani z Tobą, ani z Twoimi kolegami. Nie mogę jednak nie zareagować, gdy świadomie, jestem o tym przekonany, w nieprawdziwy sposób przedstawiasz sprawę, której w miarę moich możliwości staram się służyć, tj. jednoczeniu ludzi wokół Cerkwi.

W każdym ze zdań dotyczących naszej inicjatywy jest zawarta nieprawda lub półprawda.

Sądzę, że doskonale wiesz, że założycielami Stowarzyszenia Słowiańskiej Mniejszości Narodowej RP — Prawosławni byli przede wszystkim Białorusini, m.in. pan Mikołaj Hajduk (wybrany do Zarządu Głównego) i twój rodzony brat, lider białoruskiej partii.

Uzurpując sobie prawo wyrokowania kto jest, a kto nie jest Białorusinem, wkraczasz na niebezpieczną drogę. W swoich publikacjach stale podkreślasz, że „Białorusini nigdy nie mieli swego przedstawiciela w Sejmie”. Biadolisz, iż białoruski elektorat nie chce głosować na swoich kandydatów. Stawiam więc Ci pytanie: kto wybrał mnie, w 1991 roku, posłem? Polacy? A czyje to były głosy (30 tysięcy) oddane na Białoruski Komitet Wyborczy w 1989 roku, o czym sam z entuzjazmem pisałeś? Litwinów? Ukraińców? A ponad 30 tysięcy na kandydującego do Senatu w 1991 roku Jana Czykwina i ponad 50 tysięcy na moją osobę w ostatnich wyborach?

Od dłuższego czasu prowadzisz moralnie niegodziwą grę dzielenia Białorusinów na „prawdziwych, dobrych”, tzn. podzielających Twoje i Twoich przyjaciół poglądy i na „feudalne społeczeństwo” — to tylko najdelikatniejsze określenie, jakich używasz wobec większości swego narodu. Doszło do tego, że „Niwa” i „Czasopis” przekonują, że w Polsce Białorusinów jest 4-5 tysięcy, a w Republice Białorusi niecałe 2 miliony. Reszta to homosovieticus! Z takimi tezami występuje białoruski pisarz w polskiej prasie!!

Dziennikarze lokalnej prasy chcąc napisać o Stowarzyszeniu prosili o bezpośrednią rozmowę. Ty nie pofatygowałeś się nawet wykręcić numeru telefonicznego. Nawet w publikacji z 31 sierpnia nie raczysz przytoczyć pełnej nazwy Stowarzyszenia.

Przez wiele lat twierdziłeś, że głównym celem „demokratycznego ruchu białoruskiego” — tak siebie określacie, co chyba ma sugerować, że inni Białorusini są przeciwni demokracji — jest budowa samodzielnego białoruskiego ruchu. I taka szansa była. Świadczą o tym choćby wspomniane 30 tysięcy głosów na Białoruski Komitet Wyborczy w 1989 roku. Były to głosy na kredyt. Dlaczego ten kredyt zaufania został roztrwoniony? Czy za stan białoruskiego ruchu na Białostocczyźnie nie ponosisz wraz z kolegami współodpowiedzialności? Czy to wszystko można usprawiedliwić „schizofrenią naszych ludzi”? Pytań jest wiele.

Wybory parlamentarne, jak słusznie twierdziłeś, miały być jednym z głównych elementów budowy samodzielnych struktur wyłaniania białoruskich przedstawicieli do samorządów i wyżej — parlamentu. Od początku byłem zdania, że powyższy cel można osiągnąć jedynie poprzez wspólne działanie ludzi, których spoiwem łączącym jest prawosławie. Również i teraz, przed zbliżającymi się wyborami do parlamentu, zaproszenie do wspólnego działania środowisko inteligencji prawosławnej wystosowało do wszystkich organizacji białoruskich. Nawet nie chcieliście rozmawiać. Chcecie samodzielny ruch białoruski budować w sojuszu z Unią Pracy, chociaż wielokrotnie „jako zwolennicy rynkowej gospodarki” odcinaliście się od lewicy. Teraz przekonujecie, że bardziej niż SLD lewicowa w swym programie Unia Pracy pomoże w osiągnięciu waszych celów. Może więc czas powiedzieć publicznie, jakie to cele, bo chyba nie ograniczają się one do wspólnego z posłem Arturem Smółką palenia portretów prezydenta Białorusi przed białoruskim Konsulatem w Białymstoku.

Funkcja redaktora naczelnego pisma „przerabiającego” największą część funduszy przeznaczanych z budżetu państwa na podtrzymanie białoruskiej kultury do czegoś chyba zobowiązuje. Jeśli uważasz, że współpraca, choćby przy rozwiązywaniu wspólnych problemów, prawosławnych różnej narodowości jest niepotrzebna, powiedz to otwarcie. „Niwa” drukowała nie takie rzeczy. Po co posługiwać się fałszem, półprawdami i przeinaczeniami? Po co skłócać i dzielić i tak zdezorientowanych ludzi! I dlaczego Ty w tym wszystkim bierzesz udział?

Z poważaniem
**Eugeniusz Czykwin**

PS. Ten list napisałem 5 czerwca. Nie wysłałem go, gdyż liczyłem, że może jednak zaprzestaniesz swojej gry. Niestety, po przeczytaniu twojej recenzji („Niwa” z 31 sierpnia) wydanej przez Orthdruk książeczki „Byłem prawosławnym posłem” zmieniłem zdanie. Piszesz: „Чыквін... перамоўчвае некаторыя факты, іншыя перакручвае”. Jako przykład mojej perfidii podajesz sprawę utworzenia Klubu Inteligencji Prawosławnej. O Klubie Inteligencji Prawosławnej myśleliśmy, grupa warszawskich studentów skupiona wokół obecnego władyki Jeremiasza, w drugiej połowie lat siedemdziesiątych. Mówię o tym na str. 43, 44 wspomnianej książki. Co w tym jest przekręcone lub nieprawdziwe? Jeśli chodzi Ci o próby tworzenia bractwa prawosławnego w Białymstoku, to dotyczy to połowy lat osiemdziesiątych. Nie brałem w tym zbyt aktywnego udziału, chociaż to ja napisałem ostateczne uzasadnienie wniosku do władz.

Postępujesz niegodziwie sugerując, że to moja osoba była przyczyną blokowania przez władze utworzenia prawosławnej organizacji na Białostocczyźnie. Nie jest tajemnicą, iż w ChSS-ie rozpocząłem pracę mając błogosławieństwo naszych biskupów. Nie jest też prawdą, że ChSS, jak piszesz, było „partią powstałą w stanie wojennym”. Przecież przez kilka dobrych lat sam byłeś zatrudniony w tym właśnie ChSS-ie, który zresztą nie był partią. To z rekomendacji tej organizacji byłeś radnym Wojewódzkiej Rady Narodowej. Czyżbyś Ty, doktor historii, nie wiedział, że ChSS powstało po październikowej odwilży?

Nie wiem dlaczego zawziąłeś się na mnie. Nic złego, tak sądzę, nigdy Ci nie wyrządziłem. Jeżeli jest inaczej, proszę o wybaczenie. Proszę też, żebyś zostawił mnie i to, co usiłuję robić, w spokoju. Dyskredytując, i to przy użyciu fałszu innych nie zbudujesz ani swojego autorytetu, ani autorytetu pisma, którym kierujesz.

Życząc pomyślności
**Eugeniusz Czykwin**

**Ад рэдактара:** Паважаны спадар Яўгён Чыквін, я з'яўляюся толькі журналістам і каментатарам грамадскага жыцця беларусаў Беласточчыны. Прадстаўляю рэчаіснасць так, як я яе бачу. Пакуль што няма цэнзуры, таму пішу выключна паводле сваіх меркаванняў і як свабодны чалавек маю на гэта права. Калі пішу, што наша рэчаіснасць ёсць нецікавая, а беларуская грамадскасць разгубленая, паказваю толькі свет, які я бачу. Вы ў тым самым часе можаце ўсё гэта ацэньваць зусім інакш і таксама маеце на гэта права. Я, аднак, ніколі Вам гэтага права не адмаўляў. Чаму тады хочаце забараняць мне расказваць пра тое, што я бачу.

Ставіце мне шмат нейкіх дзіўных закідаў. Не ўсе нават разумею. Традыцыйна ўжо паўтараеце закід, што разбіваю еднасць беларускага асяроддзя. Хочаце сказаць, што ствараючы арганізацыю ў выглядзе Stowarzyszenia Słowiańskiej Mniejszości Narodowej RP — Prawosławni будуеце еднасць беларускай грамадскасці?! Прачытайце ўважліва свае тэксты з гэтага года ў сваім часопісе „Przegląd Prawosławny”. Ваш брутальны стыль у атакаванні „Нівы” нічым не апраўданы. Мы, хаця грэшнікі і ўсялякія лібералы, ніколі не дапускаемся да такой прамоцыі агрэсіі.

Шаноўны Генік Чыквін, прыміце ў канцы да ведама, што „Ніва” не ёсць газетай адрасаванай да ўсіх праваслаўных, а толькі да беларусаў і з беларускага пункту гледжання ацэньваем рэчаіснасць. Ведаем, што ў Польшчы ёсць яшчэ праваслаўныя ўкраінцы, лэмкі, палякі і іншыя нацыянальнасці, але, дзякуй Богу, для іх ёсць ваш знакаміты штомесячнік і жадаю Вам, каб усе яны былі Вашымі чытачамі.

Думаю таксама, што добра ведаеце колькі з дзяржаўнага бюджэту атрымліваюць „Ніва”, „Przegląd Prawosławny”, БГКТ і другія беларускія ўстановы. Паўтараеце аднак даволі часта, што „Ніва” „przerabia największą część funduszy z budżetu państwa na podtrzymanie kultury białoruskiej”. Пастаўлю Вам тады тое самае пытанне, якое Вы мне адрасавалі: „Po co posługiwać się fałszem..?”

**Яўген Мірановіч**

PS. Разумею, што пішаце гэты ліст у разгары выбарчай кампаніі і як кожны ў такой сітуацыі маеце права ўсё перабольшваць, таму лічу, што калі адплывуць эмоцыі, з большай памяркоўнасцю ацэньваць будзеце нашу рэчаіснасць.

А пры нагодзе, лідэрам якой партыі з'яўляецца мой брат?

# Радзіма — Родзіна

**Дадатак III**

Сёння прыводжу выказванні гарачага беларускага патрыёта святара Аляксандра Надсана, якія я пачуў ад яго пасля абвяшчэння дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі ў 1990 годзе:

„Вось бачыце, Бог выслухаў нашых малітваў. Беларусь атрымала незалежнасць. Але колькі ж ахвяраў засталося на дарозе да незалежнасці! Як жа праследаваліся уніяты ў царскія часы?! А як распраўляліся бальшавікі ў трыццатыя гады з усімі рэлігійнымі канфесіямі, у тым і з праваслаўнай! Колькі ж святароў было знішчана ў часы рэвалюцыі. Колькі рэлігійных дзеячаў, неабавязкова прафесійных духоўных, заслалі сваімі касцьмі сібірскія прасторы!

Бачыце, ішла жорсткая барацьба за знішчэнне духоўнасці народа. А раз усякая рэлігійнасць праяўляецца ў духоўнасці, дык бальшавіцкі тэрор перад усім накіроўваўся супраць рэлігіі. Якія ж цудоўныя сакральныя будоўлі ў Беларусі ўзарваны дынамітам або спалены агнём. Нярэдка зматаліся з твару зямлі святыні з самага пачатку хрысціянства на Беларусі — з XI, XII стагоддзяў. А колькі ж спалена іконаў і свяшчэнных кнігаў. У Беларусі перад рэвалюцыяй было больш чым чатыры тысячы святыняў, а асталося ўсяго некалькі сотняў сакральных будоўляў. Вось бачыце як выглядала свабода ў савецкім выданні. Людзі, каб ахрысціць дзіця мусілі хавацца так, як бы рабілі найгоршае злачынства і былі прымушаны везці немаўля да святара нярэдка пяцьдзесят і больш кіламетраў.

Ну, дык скажыце самі, ці краіна з такой сістэмай магла быць для нармальнага чалавека сапраўднай Радзімай? Гэта ж пародыя Радзімы. З сапраўднай Радзімай маем дачыненне тады, калі добрасумленны парадачны чалавек мае максімум свабоды.

Але гэта ўсё тое, што было дагэтуль і можна думаць, што пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ўсё пераменіцца і пойдзе ў добры бок. Вядома, што хацелася б, каб яно так было. Суверэнная незалежная дзяржава гэта вялікае шчасце. Толькі бачыце, ёсць падстава для таго, каб баяцца, што гэта суверэннасць і незалежнасць будзе мець абмежаваны характар. На жаль, магутнае лобі былых савецкіх чыноўнікаў, партыйных дзеячоў ды прадстаўнікоў спецслужбаў не адступіць дабравольна ад сваіх прывілеяў і сваёй дамінацыі. Можна спадзявацца вялікага супрацьву ў адносінах да беларускай мовы дзяржаўнай. Яны зробяць усё, каб утрымаць даўні стан рэчаў, ды і Масква зробіць усё, каб утрымаць статус-кво. І таму праўдападобна будзе вельмі цяжка з поўнай рэалізацыяй ідэі незалежнасці Радзімы.

І бачыце, яшчэ адно няшчасце. Чарнобыль. Вось і цяпер зноў вязу больш тоны лякарстваў у чарнобыльскую зону. Не лёгка мне пры маіх больш чым шасці крыжыках трэсціся ў гэтым мікробусе, але ж еду, бо ведаю, што там людзі ў бядзе і няшчасці чакаюць нашай дапамогі. Другое дзеянне нашай Царквы праяўляецца ў тым, што кожны год прымаем у Англію некалькі дзесяткаў дзетак з чарнобыльскай зоны. Я і вам удзячны, што і мы па дарозе з Варшавы ў Лондан можам затрымацца ў вашай кватэры. Чаму я, уніяцкі святар, усё гэта раблю? Адказ тут вельмі просты. Наш абавязак быць разам з людзьмі, асабліва з тымі людзьмі, якія знаходзяцца ў бядзе і горы. А самі ведаеце, што пакуль што наша супольная Радзіма Беларусь знаходзіцца ў стане нядолі. Святар не мае права пакідаць таго, хто апынуўся ў бядзе. Аднак я веру, што вольная беларуская дзяржава будзе павольна перамагаць усе цяжкасці, каб толькі яе незалежнасць мела поўны і аўтэнтычны характар, каб сапраўды Беларусь заняла пачэснае месца ў сям'і вольных еўрапейскіх народаў”.

**Алесь Барскі**

# Трыццаціпяцігоддзе

Тое, што адбылося ў нядзелю, 7 верасня ў беластоцкіх „Сподках”, з „кашубскімі нотамі”, пададзенымі ў запрашэнні, мела дзве супольныя рысы: Казімеж Дэркоўскі (дырэктар Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку) і беластоцкая рэгіянальная культура. Нагода дзеля гэтага была: 35-годдзе працы К. Дэркоўскага ў беластоцкай культуры.

Чалавеку, выхаванаму на Кашубах, няцяжка зразумець спецыфіку беластоцкага рэгіёна, а ён жа яшчэ і палюбіў яе. Пачынаючы працу маладым інструктарам у Аддзеле культуры Ваяводскай рады нарадовай, першы раз у „тэрэн” выехаў з тадышнім дырэктарам Аддзела культуры Леакадыяй Зіневіч у... Грабарку.

Доўгі час працаваў Казімеж Дэркоўскі дырэктарам Ваяводскага дома культуры (пасля — ВААК). Быў інспіратарам і душою многіх пачынанняў у рэгіёне, у тым ліку і беларускіх мерапрыемстваў.

Цікава бываць „у тэрэне” з дырэктарам Дэркоўскім. Ведае ён там даслоўна ўсіх, хто браў ці бярэ ўдзел у культурным жыцці сваёй мясцовасці. Пра кожнага з іх можа расказваць гадзінамі, бо народная культура гэта для яго прэстыжная справа.

Дырэктар Дэркоўскі ўмее не толькі падказваць, інспіраваць, але і кіраваць людзьмі, але сёння, на юбілеі, на які была запрошана і „Ніва”, пра гэта гаворыцца мала.

Дырэктар арганізаваў усё так, што не толькі ён, але і кожны ўдзельнік гэтай сустрэчы адчувае сябе юбілярам. Сабраліся тут яго папярэднікі на пасадзе дырэктара Аддзела культуры: Альфрэда Рамаяноўская (50-ыя гады), Леакадыя Зіневіч і Юзэф Кая (60-ыя гады), Тадэуш Бакун (70-ыя гады), Зыгмунт Цясельскі, Ян Трахімяк і Марыя Маранда (80-ыя гады), Эўгеніюш Більяруззэльскі (90-ыя гады). Іншыя ўжо не жывуць, або выехалі з Беластока.

Прыйшлі таксама паэты, журналісты, дырэктары тэатраў, людзі з круга музычнай і танцавальнай культуры, шматгадовыя штатныя працаўнікі Аддзела культуры.

Пра кожнага прысутнага патрапіў сказаць дырэктар Дэркоўскі цёплае слова, бо кожнага ведае і з кожным з іх супрацоўнічае. І сталася так, як было запланавана: былі гэта супольныя ўспаміны пра апошнія 35 гадоў у беластоцкай культуры, якія для кожнага з прысутных былі неабыякавыя.

Дык можна было даведацца пра цалкам цікавыя рэчы. Напрыклад, вядомы беластоцкі этнограф Зыгмунт Цясельскі расказаў, як паўставаў Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Мікола Бушко прыехаў да яго як да дырэктара на размову пра тое, каб неяк падняць на вышэйшы ўзровень у асяроддзі гайнаўскую культуру. Меркаваў, што можна было б там зрабіць цыклічнае мерапрыемства накшталт „Восені з блюзам” ці „Яроціна”. Казаў ён, што варта было б выкарыстаць прыродныя каштоўнасці Белавежы, зрабіць там вогнішча. Гайнаўскі дом культуры быў бы арганізатарам.

Я, сказаў былы дырэктар З. Цясельскі, падказаў яму, што мае быць нешта вельмі арыгінальнае і можа гэта быць, напрыклад, царкоўная музыка, такога ж фестывалю ў Польшчы не было... А паколькі быў 1981 год і была фестывалеманія, з якой змагаліся, я запрапанаваў на пачатак: Дні царкоўнай музыкі. Міколу думка прыйшла да спадобы і ён пачаў яе рэалізаваць. На першыя „Дні” я сцягнуў хор а. Юрыя Шурбака, заплаціў ім. Ну, а цяпер, як бачым, ёсць фестываль.

Кожная эпоха несла сваё. Былы дырэктар Э. Біль-Яруззэльскі цешыўся, што ў 90-ых гадах, калі чуліся галасы, што бібліятэкі гэта выдумка камуны, удалося ўтрымаць культурную субстанцыю Беласточчыны.

Успамінаў было шмат, былі супольныя спевы з юбілейнага спеўніка, падыгрывалі Роберт Панэк, Юзэф Зыськ і Ежы Томзік, а нават хвіліну танцаваў чэмпіён Польшчы ў таварыскім танцы і стваральнік танцавальнага руху ў Беластоку Генрык Малышка. Адным словам, імпрэза прайшла па плану. Віншаванняў было — не злічыць.

**Ада Чачуга**



*Фота аўтара*

Адгалоскі

# Аб чым ведае ўвесь свет

У 36-м нумары „Нівы” Васіль Петручук адгукнуўся адгалоскай „Актуальны погляд на мінулае” на невялічкі артыкулік „Позірк у мінулае” з 28-га нумара „Нівы”, інфармуючы, што змешчаная там інфармацыя ўводзіць чытача ў зман і павучаючы, што часопісы павінны імкнуцца высвятліць аб'ектыўную гістарычную праўду, аб якой ведае ўвесь свет (падкр. — А. В.).

Прыпомню тут, што ў 28 н-ры „Нівы” дадзена была кароткая характарыстыка цара Мікалая II, у якой было, што ягоны „інтарэс да пашырэння сваёй улады стаў адной з прычын выбуху вайны з Японіяй у 1904 г., правал якое спарадзіў рэвалюцыю 1905 г.” У сваёй адгалосцы на тэму цара Мікалая II Васіль Петручук цэлы абзац — больш за палову ўсяго тэксту — адводзіць апісанню войнаў, якія распальвала Японія, быццам той Мікалай II быў японскім царом, нат тады, калі не было яго ўжо ў жывых. А імператар жа Мікалай II, аб чым *ведае ўвесь свет*, быў царом Расеі, а царом Японіі, як здагадваюся я, ён толькі думаў быць. Як этап да гэтай мэты, у часе Іхэцюанскага паўстання (баксёраў), Расея ў 1900 г. увяла свае войскі ў Маньчжурыю. „Nie wywołało to zadowolenia w Tokio, — піша Людвік Базылёў у кнізе „Historia Rosji” (Ossolineum, 1969) — lecz Japonia chciała jednak uznać Mandżurię za rosyjską strefę wpływów — pod warunkiem, że Rosja uzna takie same prawa Japonii w Korei. Rząd rosyjski nie przyjął tej propozycji, w Petersburgu bowiem zyskiwali coraz większą przewagę zwolennicy agresywnej polityki na Dalekim Wschodzie, popierani przez bardzo wpływową wówczas klikę aferzystów, którym marzyły się olbrzymie dochody z eksploatacji bogactw Korei. Wtedy Japonia zaczęła się przygotowywać do wojny i w r. 1902 zawarła sojusz z Anglią. Carat nie wyciągnął żadnych wniosków z sytuacji i coraz intensywniej realizował «wielki program azjatycki», mimo że w nowym układzie z Chinami (26 III (8 IV) 1902 r.) Rosja zobowiązała się wycofać wojska z Mandżurii w ciągu kilkunastu miesięcy”. Тое расейскае абавязацельства так і асталося на паперы і гэта, хрэстаматыйна па Клаўзевіцу, і давяло да вайны 1904—05 гг., а не імяніны нейкай Марыі Іванаўны Старк, пра якія піша сп. Петручук. Магчыма, што адміраліха адыгрывала важную ролю ў таварыскім жыцці Порт-Артура, будучы не толькі зачэпкай для калектыўнага п'янства, але і дастаўляючы больш дакранальных асабістых радасцей тэмпераментным падкамандным свайго мужа, што часта практыкуецца ў аддаленых гарнізонах.

Заглянуў я яшчэ ў энцыклапедычныя даведнікі, дзе прыводзіцца сінтэз найважнейшага: ні пра Марыю Старк, ні пра яе мужа, ні пра процьму зачэпак для п'янства расейскіх афіцэраў нідзе няма. А пра цара Мікалая II — усюды. Савецкі „Энциклопедический словарь” з 1964 г. так піша пра яго: „Крайняя реакционность монархии Н. II, (...) нашла свое выражение в (...) усилении нац.-колон. гнёта, в авантюристич. внеш. политике (империалистич. рус.-япон. и 1-я мировая войны)”. Амерыканская „Энкарта'97” паведамляе: „Nicholas's interest in Russian expansion in the Far East was one of the contributory causes of the disastrous Russo-Japanese War (1904-1905), (...)”. А ход даваенных падзей, апісаны ў Энкарце, супадае з апісаннем Л. Базылёва.

На канцы свае адгалоскі сп. Петручук спамінае пра ахвяру і яе цара. Безмоўнай ахвярай японцаў у Порт-Артуры былі імяніны адміраліхі Старк. Варта яшчэ аднак прыгадаць пра другія ахвяры, пра якія таксама *ведае ўвесь свет*. Дзясяць гадоў пасля тых імянінаў розныя імператары пагналі сваіх грамадзян на сусветную вайну, у іх ліку і расейскі. Вайна тая доўжылася чатыры гады, але не для расіян. У Расеі Грамадзянская вайна — быць ці не быць старому парадку — і зроджаны ёю тэрор забралі на той свет мільёны людзей, галоўным чынам змагароў за новае. Чые гэта ахвяры? Жыдоў? Палякаў? Японцаў? І чаму ж тыя расіяне не заступіліся за старым, а многія з іх выбіралі смерць замест жыцця пад старым панаваннем? Што давяло іх да такога адчаю? У аўтабіяграфічнай кніжцы „Пожня” яе герой, папаўшы ў баявыя абставіны, з надзеяй чакаў смяротнай кулі, якая б вызваліла яго ад вяртання дадому, да „цара” ягонага дзяцінства. „Пожня”, поўная горкай жыццёвай праўды, куды больш вартасная ад тых усіх пудраваных дыфірамбаў развэшчанай салдатні і яе цару. Шкада толькі, што некаторыя людзі з прыходам чарговага перыяду жыцця пачынаюць чытаць абы-што ды, следам, і пісаць абы-што.

Недзе паўгода таму слухаў я нядзельныя нацменскія перадачы Беластоцкага радыё, у іх ліку і „Украинскую думку”. Акурат думаў там Васіль Петручук, і прыдумаў, што памяняў бы некаторыя свае абзацы ў „Пожні”. На думку ж маю, няма чаго Васілю Петручуку з гэтым спяшацца: wrаса nowe dy жывуць яшчэ ўдзельнікі апісаных ім падзей, і іх ацэнка можа яшчэ вярнуцца ў старое русла. Усталявалася затое ж ацэнка падзей з пачатку нашага стагоддзя, і мяняць свае артыкулы павінны вучоныя-энцыклапедысты, якія не ведаюць аб тым, аб чым *ведае ўвесь* вядомы Васілю Петручуку *свет*.

**Аляксандр Вярбіцкі**

Адгалоскі

# За што мяне доля пакрыўдзіла...

Жыццё дорыць чалавеку адны суровыя выпрабаванні, застаўляе яго лагічна думаць. Хто не зможа думаць, значыцца, не патрапіць жыць. Да такіх прынцыпаў зводзіцца і асноўная думка аўтара публікацыі „Разважанні пра дэмакратыю”, якая друкавалася ў 35 нумары „Нівы” ад 31 жніўня 1997 года.

Паважаны спадар М. Куптэль (бо аб ім тут гаворка) так канстатуе: „Такіх як Ул. Сідарук, якія не вераць нікому і ні ў што, ні ў дэмакратыю, ні ў грамадскую справядлівасць многа. Яны — пакрыўджаны лёсам і жыццём, тым болей цяпер, калі самому за той лёс і жыццё трэба адказваць і ... думаць. Найлепш было ў час ваеннага становішча. (...) Вечарамі чалавек сядзеў у хаце пры дзецях і жонцы. Усе больш-менш атрымлівалі аднолькавую зарплату! Хто за працу, хто за тое, што хадзіў на працу. І так цяклі гады...”

Колькі ж цынізму бачу ў Вашых словах, паважаны спадар Куптэль! Паводле Вас за тое, што я песімістычна гляджу на свет, мяне пакараў лёс, і зараз я не патраплю думаць і адказваць за сваё жыццё? Ці не так? Вось, што Вам скажу, паважаны прыяцель! Пры камуне я быў аптымістам. Глядзеў на свет праз ружовыя акуляры. Верыў усім красамоўным аратарам, якія, выказваючы прыгожыя лозунгі аб сацыялістычнай дзяржаве, самі інакш паступалі.

Мой даволі багаты жыццёвы вопыт прымусіў думаць іншымі катэгорыямі. І я ўжо інакш думаў перад ваенным становішчам. А доказам гэтаму няхай будзе адрачэнне ад прыналежнасці да партыі ў сакавіку 1979 года і здача партыйнага білета.

Тое, што „неяк” думаў я ўжо тады, няхай сведчыць факт, што абзавёўся сям'ёю, сваімі сіламі і за добрасумленна запрацаваныя грошы пабудаваў дом. Вывучыў дзяцей на годных грамадзян. Глядзеў я вашымі катэгорыямі і верыў, што наступіць дэмакратыя, што стану **вольным** чалавекам, што змагу **свабодна** выказваць свае думкі на старонках „Нівы”, што дзеці будуць мець працу, нажывуць кватэру, што не будзе насілля і станем жыць пахрысціянску, як вучыць Закон Божы. І вось ідзе сёмы год дэмакратыі. А што ў нас змянілася? Пэўна скажаце, што многае. Усяго маем удосталь. Няма талонаў на тавары, як у ваеннае становішча. Кожны атрымоўвае **належную** зарплату за сваю працу. І, урэшце, мы сталі **вольнымі**, апынуліся ў **суверэннай** краіне і т.п.

Гэта ўсё праўда!

Ёсць і другая праўда, аб якой я выказваўся ў сваёй публікацыі „Няма з чаго цешыцца”.

А ў канцы хачу вось што сказаць, паважаны спадар Куптэль: за што мяне пакараў лёс і жыццё, я ведаю сам (пэўна і Вы здагадваецеся). А ці я патраплю нешта думаць і змагу адказваць за сваё жыццё, не мне з Вамі аб гэтым спрачацца.

**Уладзімір Сідарук**

# Парнасік

### Аўроры падказваю

Чалавек чалавеку
Стаўся ворагам ад веку,
Каб другога ашукаці,
Сабе ўсё дабро забраці.
Дайце вы яму драбіну,
Ён палезе на Кіліну
І не будзе сараміцца,
Толькі каб яму разжыцца.
Вось якімі людзі сталі:
Цвёрдымі, як бы са сталі,
Круцяцца у іх мазгі,
Каб разбіць усё ўдрабязгі.
Што калісь мы будавалі
Усё цяпер паразбуралі,
За бясцэнак распрадалі
І кішэнь панабівалі.
Не страшная ім трывога,
Не баяцца яны Бога.
Думаюць, як лепей жыці,
Каб другога загубіці.
У храм не пойдуць памаліцца,
Лепей у карчме напіцца
Ды зрабіці там бізнес,
Каб быў добры інтарэс.
Іх пяром не разаб'ем,
Не памогуць крыкі.
А насычаны яны тым,
Каб зло ўсім тварыці.

**Мікалай Лук'янюк**

### Бог даў дождж і даў пагоду

Бог даў дождж і даў дасканалую
пагоду
Каб селянін паспяхова зрабіў
сваю работу.
Жніва кончылася як трэба
І не будзем галодны хлебам.
Цяпер пайшла мода на камбайны:
Карыстаюцца імі хто пасрэдны
і хто дбайны.
Машына на месцы сажне
і змалоціць
І нашы клопаты скароціць.
Хаця нашы нервы часта псуюцца
І чалавек надарэмна злуецца,
Што не ў час дастаў машыну
Каб выкасіць даліну...
Другі гаворыць: Маё збожжа
на ўзгорку
І далёка ад панадворка,
І няхай мне першаму едзе туды
касіць —
Я таксама хачу жыць.
Трэці кажа: Я на камбайн чакаю
больш за *срок* —
Забалеў нават адзін бок
І няхай мне таксама выкасіць
Пакуль пагода і сонца паліць.
За камбайнам чарга была вялікая
Ды на шчасце спакойная і не дзікая.
Усё ў нас прайшло спакойна
і без сварак;
Гэта ўжо вялікі Божы падарак.
На гэты раз зерне вельмі сухое —
Нам усім пачэснае і дарагое;
Можна ў свіран смела высыпаць
І да саўбы і млына прыгатаўляць.
Жніва спазнілася на цэлы месяц,
Але нам зоркі на небе і надалей
свецяць.
Бог сваіх верных і грэшных шкадуе
І часу свайго не марнуе.
Што ж, лета кончылась
і восень у дзверы *стучыць*;
Будзем і з ёю дружыць.
Бо восень — таксама залатая
І нам усім мілая і дарагая.

**Мікалай Панфілюк**

### Навальніца

Навальніца — гэта слова
Так многа змяшчае:
Цёмна хмара, як зямелька,
Зямлю закрывае.
Пацямнела, быццам ноччу,
А дзянёк у разгары.
Сонца светлыя прамені
Закрылі цёмныя хмары.
Бляск маланкі праз хвіліну
Зямлю асвятляе,
А праз момант зноўку цемра
Усё акружае.
Гром магутны пракаціўся,
Зямля задрыжэла.
Моцны вецер ускалыхнуў усе
Верхавіны дрэваў.
Дождж паліў так, быццам хтосьці
З вёдраў ліў тут *воду*.
Град пасыпаў, стала бела
Ад шарыкаў лёду.
Вада паплыла, усё змыла,
Усюды чыста стала.
Цёмны хмары пасвятлелі,
Сонейка зайграла.
І няма ўжо навальніцы,
Быццам не бывала,
А на склоне небасхілу
Вясёлка заззяла.

**Марыя Манаховіч,**
**Ягуштова**

### Знайшоў грыба

Грыбок, грыбок!
Дзе твой браток?
Майго братка
Даўно панеслі;
А ты прыйшоў
Па мяне аднаго.
Не спяшайся.
Вазьмі мяне,
А маё месца
Прыцісні нагою.
Абыдзі кругом,
Абабяры карэньчык...
На другі год прыйдзеш
І наследніка знойдзеш.

**Аляксандр Каролька,**
**Гайнаўка**

## Вер — не вер

Астроне! Сніцца мне, што я памерлы. Але іду кудысьці. Бачу многа людзей, там і дзеці малыя і большыя. Стаяць яны ў двух шарэнгах з левага і правага боку. А я іду пасярэдзіне. Я мушу ісці па гэтай дарозе (бо ж я нежывы) да месца, дзе мне падрыхтавана труна, у якую я лягу. Ідучы, затрымаўся я пры дзецях. Хацеў з імі пагаварыць, а дзеці адазваліся першымі: „Мы вас баімося, вы ж мёртвы". А я гавару: „Дзеці, не бойцеся мяне, я дзяцей люблю". Гэтыя дзеці — адны дзяўчынкі. Я кажу, што я маю ўнукаў, хацеў пра іх дзецям расказаць, але ўспомніў, што я ж мушу ісці да труны, бо ўсё там ужо нарыхтавана.

Іду і бачу нейкіх людзей у казацкіх мундзірах. І бачу высокае, кунатае прыгожае дрэва — сасну. На ёй прымацаваны тэлефон і тыя людзі званілі па тэлефону. Званілі яны і ў маёй справе — што доўга мяне няма. А я думаю, чаго яны звоняць, я ж ужо іду. І бачу за гэтым дрэвам белы дом, а дзверы ў ім дубовыя, вялікія, ды адчыненыя наскрозь. Не ведаю, які гэта будынак. Хтосьці мне гаворыць: „Ідзі хутчэй!" А я адказваю: „Добра, але яшчэ закуру папяросу!" Я ведаў, што мушу легчы ў труну, бо гэта ж так трэба, я ж нябожчык. Але труны гэтай я не бачыў. Астроне, што можа абазначаць гэты дзіўны сон, мяркую, пэўна, нічога добрага, га?

**Сцяпан**

Сцяпан! Смерць у сне прадвяшчае доўгія гады жыцця. Сам памяркуй: ты ж тае труны не бачыў, хаця ішоў да яе. Калі ты — пажылы чалавек, сапраўды труна магла б абазначаць табе дрэннае. Так што няма чаго перажываць.

Дзяўчаткі, якіх ты сустрэў, а таксама адчыненыя дзверы ў той дом абазначаюць поспехі ў тваіх справах.

Не спяшайся туды! Яшчэ памучышся на гэтым свеце.

**Астрон**

# Песімізм — вораг дэмакратыі

Спадар Міхась Куптэль напісаў вельмі добрую і праўдзівую адгалоску-публікацыю п.з. „Разважанні пра дэмакратыю" („Ніва" н-р 35), дзе закрануў справы праўдзівай дэмакратыі, а таксама погляды чалавека на яе. Свет загінуў бы, калі б усе людзі былі песімістамі і ў нішто не верылі, а яшчэ горш было б, калі б імі зверху кіравалі як робатамі. У Савецкім Саюзе такое было і нічога з яго добрага не атрымалася. Так было і ў час ваеннага становішча ў нас: улада перанята ўсе нашы клопаты. На ўсе патрэбныя для жыцця прадукты былі карткі, вечарамі чалавек сядзеў у хаце, пры дзецях і жонцы — слушна ўспамінае сп. Куптэль. А я ад сябе дадам: трэба было сядзець ціха, як мыш пад мятлою. Помню, як групка людзей, у іх ліку і я, стаялі на вуліцы, а міліцыянер з дубіцкага пастарунка ўсіх нас разагнаў. Нават „Ніва" даўжэйшы час не выходзіла і гэта было прыніжэннем для нас, беларусаў. І цікава, ці сп. Сідарук згодны, каб той „залаты час" ізноў да нас вярнуўся? Бяда ў нас, што тых, якія не вераць ні ў дэмакратыю, ні ў грамадскую справядлівасць — многа. І кожны такі дбае выключна пра свой жывот. Сёння, пры нашай кульгавай дэмакратыі, усім кіруе ненасытнасць і шырокія знаёмствы — наменклатура. Таварыш таварыша не падвядзе і такія займаюць найвышэйшыя *столкі* ў нашай краіне. Тое, што мы маем у Польшчы кульгавую дэмакратыю, гэта і наша заслуга, бо розных жулікаў і махляроў, так з правага, як і з левага бакоў, мы самі выбіраем на высокія пасты. А жулік, ці ён пахне камунізмам, ці капіталізмам — гэта аднаго поля ягада, і калі б узважыць іх, дык яны адзін і другі лягчэй пустаты. Я аптыміст, і лічу, што калісь усё ў нас направіцца і мо будзем мець сапраўдную дэмакратыю.

**Мікалай Панфілюк**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. касцявы мозг, 8. роднасны аслу, 9. лубяны абадок у рэшаце, 10. унук дзеда, 11. каштоўнасць, 13. Мікалай, супрацоўнік Герцэна (1813—77), 15. Эдгар, амерыканскі пісьменнік (нар. у 1931 г.), 16. скамянелая смала жоўтага колеру, 20. белае крышталічнае рэчыва з рэзкім пахам, 22. Дыега, іспанскі жывапісец (1599—1660), 23. араматычная смала, 27. брытанскі гераічны эпас з 8-га ст., 29. грашовая адзінка ў Венгрыі, 30. кельцкі жрэц, 31. александрыйскі ерэтык, якога навуку асудзіў Нікейскі сабор, 32. Эрых, нямецкі пісьменнік (1898—1970), 33. ансамбль з васьмі чалавек, 34. горад у Бельгіі.

**Вертыкальна:** 1. вогнедышная гара, 2. Матэо, італьянскі паэт (1441—94), 4. опера Беліні, 5. дзяржава ў Персідскім заліве, 6. Саул, амерыканскі пісьменнік, Нобелеўская прэмія за 1976 г., 7. бег каня наўскач, 12. старажытнагрэчаская назва Дняпра, 14. Ян, ваявода трокскі, маршалак Вітаўта і Свідрыгайлы, 16. гнойная ранка на скуры, 17. горад у Гандурасе, 18. адбітак нагі на пяску, 19. рака ў Манголіі, 21. Мігель, гватэмальскі пісьменнік, Нобелеўская прэмія за 1967 г., 24. гарачы мацярык, 25. напр. капітан, 26. Эмі, амерыканская паэтэса (1874—1925), 27. напісаў „Жураўліны крык", 28. рашучы наступ. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 31 нумара**

**Гарызантальна:** крона, бідэрмеер, аплік, абсяг, быт, віскоза, Аспарух, сэр, кавун, Каена, Чамярыцкі, кафля.

**Вертыкальна:** бодрычы, кадук, афера, Бялькевіч, Руставелі, аміяк, груша, бас, Тар, Эшкрафт, намёк, куцця.


# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Чатырохрадкоўі

„Сякач” на тое і сякач,
Каб ад дзяцей не чуўся плач:
Шалёныя ўзнясе клыкі —
Хвасты падкручваюць ваўкі.

* * *

Хаваўся заяц ад ваўка,
Балотамі і сушай,
Але з любога астраўка,
З кустоў — тырчалі вушы.

* * *

Пасаду меў Кузьма Ягорыч.
Пакінуў прахіндзейства горыч.
Сядзіць, ды не за кратамі —
Сяброў кішэні кратае.

**Алесь Пісарык**

## Думкі ў час мігрэні

* Адзінота — ціхі забойца.

* Перш чым быць беларусам, будзь чалавекам.

* Смерць найбольш запрацаваная асоба — у яе ні свабодных дзён, ні свят і на пенсію не адпускаюць.

* Жонка датуль твая, пакуль не паявіцца дзіця.

* Не хвалюй, шчасце, адыдзі, у маім узросце трэба мяне пакінуць у спакоі.

**Пётр Байко**

*Малюнак Ю. МЕХТЭРАВА («Хэнэк», г. Уфа)*

## Тэлефон

Я сядзеў у крэсле і чакаў, калі мая жонка зойдзе ў пакой. Толькі яна пераступіла парог, я хутка ўзяў тэлефонную трубку.

— Не ведаю, — сказаў я. — Хіба нельга ў іншы дзень? Сёння ж пятніца і ў мяне ўжо ёсць свае планы на суботу і нядзелю.

Потым я прыкрыў трубку далонню і прашаптаў жонцы:

— Гэта дырэктар! Што за чалавек!? Вось умее псаваць настрой!..

I я зноў засяродзіў сваю ўвагу на тэлефоне:

— Добра, добра... Але чаму не можа паехаць, напрыклад, Сапоклес? Ён лепш за мяне валодае нямецкай... Так... Разумею. Вунь яно што! Разумею. У камандзіроўцы. Дзе? У Празе? Разумею. Так. А Кладзуба? Хворы? Гэта не вельмі прыемна. Разумею. Што? Як вы сказалі? Вернемся толькі ў нядзелю вечарам!.. Ну, ведаеце... Добра, скажу! Абавязкова ёй скажу. Так, перадам. Несумненна. Да пабачэння!

Я паклаў трубку і звярнуўся да жонкі:

— Дырэктар перадае табе прывітанне і просіць прабачыць яго за тое, што ён сапсаваў нам выхадны...

— А што здарылася? — пацікавілася жонка, не адрываючы позірку ад экрана тэлевізара.

— Што здарылася? — сумна паўтарыў я. — Да нас прыехала нямецкая дэлегацыя і мне даручылі яе суправаджаць. Табе ж вядома...

— Вядома, — не дала дагаварыць мне жонка, паднялася і выключыла тэлевізар. — Што ты возьмеш з сабой?

— Вернемся мы толькі ў нядзелю ўвечары. Нічога не разумею, чаму павінен ехаць менавіта я?.. — працягваў я гучна гаварыць.

— Двух сарочак табе хопіць? — спыніла мяне жонка.

— Так. Пэўная рэч! I, калі ласка, пакладзі некалькі гальштукаў. Ну, і піжаму...

— А куды, уласна кажучы, вы едзеце? — пацікавілася жонка.

— Куды? Мы пакажам немцам наш арэндны будынак адпачынку.

— Спадзяюся, любы, там у далечыні, ты будзеш думаць аба мне?

— Ну, пэўная рэч, любая, — адказаў я.

— Як заўжды? — удакладніла яна.

— Звычайная справа, — усміхнуўся я. — Як заўжды...

Я пацалаваў яе, выйшаў і націснуў кнопку ліфта. Жонка стаяла ля расчыненых дзвярэй і чакала, калі я ўвайду ў кабіну. А калі я хацеў ужо спускацца, яна, ледзь стрымліваючыся ад смеху, гучна сказала:

— Вось што, зусім забылася сказаць табе, ужо другі дзень у нас не працуе тэлефон!

**Штэфан Бітман**

*Пераклаў са славацкай*
*Валерый Бабей*

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Пасля трох месяцаў знаёмства Галя пытае свайго нарачонага:

— Знаёмы мы ўжо так доўга; ці не мог бы ты прадставіць мяне сваёй сям'і?

— Згода! Толькі ў гэтым тыдні гэта немагчыма: жонка з дзецьмі паехала да сваіх бацькоў.

* * *

Падчас дашлюбнага навучання ксёндз пытае маладую пару:

— Ці вы належным чынам прыгатаваліся да такой важнай падзеі?

— Вядома! — адказвае будучы жаніх. — Купілі ўжо 30 літраў гарэлкі, 10 літраў спірту і тры кардоны віна.

* * *

— Што з тваім шлюбам, Іван? — пытае сяброўка.

— Нічога; калі нарачоная даведалася колькі я выдаю грошай на вопратку, выйшла замуж за майго краўца.

* * *

— У мяне дзве кандыдаткі на жонку, — гаворыць Міша Андрэю, — ды не ведаю, якую выбраць: адна — гэта багатая ўдава, але я яе не кахаю, другая — бедная дзяўчына, якую кахаю.

— Па-мойму трэба жаніцца з любімай.

— I я так думаю; ну іх з грашыма...

— А мог бы ты мяне пазнаёміць з тою ўдавой?

* * *

— Вера! Ты не думаеш выходзіць замуж?

— Яшчэ падумаю, хаця пару разоў мяне ўжо прасілі.

— Скажы! Скажы хто?

— Мае бацькі.

* * *

— Мамачка, якая розніца між бычком і бугаём?

— Бык, гэта муж каровы, а бугай, як бы табе сказаць, гэта сябра сям'і.

* * *

Сварацца два хлопчыкі:

— Мой тата лепшы за твайго!

— Гэта няпраўда.

— Мой брат вышэйшы за твайго.

— Хлусіш!

— Мая мама лепшая чым твая.

— Гэта можа і праўда, бо і мой татка таксама так гаворыць.

## *Сардэчныя* ТАЙНЫ

Міленькае Сэрцайка! Малю цябе, скажы, што ты жанчына. Мо ты і мужык, але прашу, не прызнавайся да гэтага, бо быў бы гэта для мяне канец. Я, калі чытаю тваю рубрыку, бачу цябе, уяўляю, перажываю ўсё разам з табой. Мне здаецца, што ўсё гэта дзеецца з намі: са мной і з табой, дарагое Сэрцайка.

А ведаеш, як мне бывае тады прыемна... Вядома, усё залежыць ад тэмы лістоў, якія ты друкуеш, але наогул я заўсёды хапаю „Ніву” і пачынаю яе чытаць ад „тайнаў”. Як толькі тэма эратычная, дык так і бачу: ты і я.

Даражэнькае Сэрцайка! Я безнадзейна пакахаў цябе. Не ведаю, што рабіць. Я калісьці кахаў актарак: то адну, то другую. Вешаў іх здымкі на сценах у сваім пакоі. Апошняй была Гражына Шапалоўская, польская актрыса. А пасля яе ўжо было толькі ты, Сэрцайка. Скажы, мілае, што ты — жанчына... Але што ж, калі і так твайго здымка на сцяне не павешу... Хіба толькі тэксты, якія я ўсе выразаю і збіраю.

Чытаючы тваю рубрыку, я ўяўляю, што ўсё гэта пішацца для мяне. Ведаю, ведаю, што гэта людзі просяць нейкай парады, дапамогі... Аднак жа, калі бяру ў рукі „Ніву”, дык акунаюся ў сферу мараў і так мару, мару ды мару... пра цябе і пра мяне — разам.

Мілае Сэрцайка! А чаму ты ў апошні час даеш так мала эротыкі? Ці сапраўды жывецца нам аж так кепска, што на секс ужо і сілы няма?.. Ты ж само падумай: хто цябе чытае? — Моладзь. А моладзь, яна пра маладое і думае.

Во калісьці (тады, калі я ў цябе закахаўся), дык ты пра секс ой, як соладка пісала. Як ён і так яе, і гэтак, і пра такія „габарыты”, і пра сякія. А цяпер усе лісты найбольш датычацца псіхічнага боку пачуцця, званага каханнем. Мне, скажу табе па шчырасці, гэтага мала. Я чакаю з нецярплівасцю, калі ты будзеш ізноўку даваць нешта мацнейшае.

I яшчэ хачу табе прызнацца, што мы часамі з сябрамі збіраемся і чытаем супольна тваю рубрыку. Мушу сцвердзіць, што калісьці рогату было больш. Моладзь любіць пасмяяцца, каб хоць крыху адпачыць ад навукі, а ты найчасцей даеш сумныя лісты. Ад такіх, даражэнькае, жыць неахвотна.

Во, памятаю, як была дыскусія пра тыя „габарыты”, дык калі кожны пачаў хваліцца сваімі валёрамі, тады было смеху! А адзін вясковы дзядзька нават даў цэлы ўрок, як ён паволі, далікатна прывучаў сваю Гапку да яго незвычайных „габарытаў”.

Так, былі часы, але не хвалюйся, я цябе і так кахаю. Толькі вось каб нам неяк убачыцца. Падумай, Сэрцайка, як гэта зрабіць, бо я згараю ад кахання. А так папраўдзе, дык я марную час. Мне гэта каханне засланіла ўвесь свет. На дзяўчат і не гляджу. Думаю, што не раўня яны табе. З нецярплівасцю чакаю, быццам нейкай рандкі, новай рубрыкі „Сардэчныя тайны”. Чакаю прыемнсі цёплага адказу.

**Юрка**

Даражэнькі Юрка! Адказ будзе памяркоўны і, магчыма, расчаруе цябе. Ужо ж пісалася не раз, што не баба я і не мужык! Я — Сэрцайка, значыцца, **яно**, ніякі род. I прашу: **без інсінуацый!**

Сораму ты не маеш! Дзеўку б добрую знайшоў, а не са здымкамі актрак кахаўся б. Цікава, а як ты гэта робіш з выразкамі „тайнаў”? Пэўна, павесіў іх на цвічку над ложкам?..

Ды і наогул, з чаго ты ўзяў тыя лісты да сэрца? Яны ж цябе не датычацца. Кожны піша пра сябе. А што людзі пішуць сумныя лісты — здаецца, зразумела: мо нехта выплакацца хоча. Радасцю чалавек не бяжыць дзяліцца.

Во гэта дык ты падмеціў слушна: надта эратычныя лісты, свавольныя празмерна — свядома адкідаю. Не ўсім гэта падабаецца. Асабліва абураюцца некаторыя мамы, называюць Сэрцайка паскудай, бо быццам іх дочкі гэта чытаюць. А што тут кепскага? За адным захадам і родную мову вывучаюць.

Не, даражэнькі, яшчэ не перавёўся секс. Эротыка квітнела нават у час вайны. Там дзе ёсць людзі — ёсць секс. Ну, хіба што атамная катастрофа...

Ну, бывай здароў. Шукай дзяўчыну. Буська.

**Сэрцайка**